


# Беларус

**№ 374 Кастрычнік 1990**
Год выд. XXXIX

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00


***Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!***
*Францішак Багушэвіч (1840-1900)*

**Адам Мальдзіс**

## ЗАПАВЕТЫ СКАРЫНЫ

Сёньня, калі мы ўрачыста адзначаем 500-годзьдзе з часу нараджэньня Францішка Скарыны, асаблівую цікавасьць у нас выклікаюць погляды беларускага асьветніка на тое, якімі павінны быць узаемадносіны паміж людзьмі, народамі, канфэсіямі і дзяржавамі. Погляды гэтыя, вельмі актуальныя і павучальныя для сёньняшняга сьвету, зьяўляюцца арганічнай часткай яго стройнай сыстэмы поглядаў на чалавека і грамадзтва, якая склалася ў выніку арганічнага сынтэзу сярэднявяковых традыцый і рэнэсансна-гуманістычных уплываў. Трэба падкрэсьліць, што сыстэма поглядаў Ф. Скарыны вызначалася адкрытасьцю. Сваё, айчыннае, усходнеславянскае, праваслаўна-візантыйскае тут творча спалучалася з заходнеславянскім і заходнеэўрапейскім, каталіцка-раманскім. Як мысьліцель і мастак слова беларускі першадрукар ішоў ад нацыянальнага да агульначалавечага.




*Партрэт Ф. Скарыны работы А. Кашкурэвіча ўпрыгожвае паштовы канвэрт, выпушчаны да скарынаўскага юбілею Міністэрствам сувязі СССР.*

У параўнаньні з нашым неўраўнаважаным і дысгарманічным часам у Францішка Скарыны надзіва арганічна і гарманічна спалучаліся індывідуальны і грамадзкі пачаткі. У ягонай спадчыне ўвогуле ўсё па-рэнэсансnаму ўраўнаважана: духоўнае і цялеснае, асабістае і грамадзкае — з тым, аднак, што ў цэнтры ўказанага трыадзінства знаходзіцца чалавек — па сваёй натуры стварэньне гуманнае, богападобнае. Ён імкнецца «вкупе жити» зь іншымі людзьмі, што аб'яднаныя ў грамадзтве ідэяй усеагульнага дабра («посполитое доброе»). У прадмовах Скарыны справядлівае грамадзтва параўноўваецца з адзіным арганізмам, у якім патрэбныя й карысныя ўсе саслоўі, у якім «вси вкупе собе суть помощни». Ідэал нашага вялікага суродзіча — чалавек, што «свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяеть, наиболей любовь ко всим соблудасть».

Як прадстаўнік рэнэсанснага гуманізму Францішак Скарына даказваў роўнасьць ўсіх людзей. Найперш гэта роўнасьць перад Богам, якому аднолькавыя і багатыя, і бедныя — абы яны жылі ў цноце, тварылі добрыя справы. Потым гэта роўнасьць перад аблічкам закону, як «прирожоного» (натуральнага), так і «написаного». Законам павінна прадугледжвацца «ровная свобода всем». На думку Скарыны, вельмі актуальную для нашага сёньняшняга грамадзтва, кожны чалавек мае права на свой выбар жыццёвага шляху: «в чем кто изволит, в том да пребывает». Кіруючыся законам, судзьдзі павінны судзіць справядліва — не «яко цари или властели вышнии, но яко ровнии и товарищи».

Паводле Скарыны, правы асобнага чалавека, індывідуума не павінны супярэчыць правам іншых людзей. Выключэньне трэба рабіць толькі «для людзей злых». Калі яны зрабілі злачынства, парушалі закон, то ім належыць баяцца грамадзкага пакараньня, аднолькавага для ўсіх, незалежнага ад сацыяльнага статусу злачынцы і ахвяры. Погляды беларускага першадрукара тут блізкія да асноўных палажэньняў Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1529 г., у падрыхтоўцы якога, прынамсі на раньнім этапе, ён ня мог ня ўдзельнічаць.

Скарына падкрэсьліваў, што нормамі «прирожоного», г. зн. народнага права вызначаюцца і ўзаемаадносіны паміж людзьмі. Гэтыя адносіны павінны грунтавацца на павазе да кожнай асобы, на роўнасьці ўсіх членаў грамадзтва, на справядлівасьці і чалавекалюбстве. Не выпадкова ў Скарынавых прадмовах так часта сустракаюцца словы «любов», «любити», «друголюбие», «братолюбие», «ласка». У паўсядзённым быцьці чалавеку належыць кіравацца прынцыпамі разумнай альтруістычнай узаемнасьці: «то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети».

Усе канфлікты паміж людзьмі, навучаў Скарына, нібы прадбачачы наш звышканфліктны час, павінны вырашацца мірным шляхам, без узаемных крыўдаў і злосьці. Любоў і дабразычлівасьць этычней, чым пакараньне, няхай і заслужанае. «Не имамы о собе много глаголати, ни на иных гневатися», а тым больш «друга не оклеветати, ни осужати», раіць беларускі гуманіст ня толькі сваім сучасьнікам, але і нам, людзям, аддаленым у часе на цэлых пяць стагодзьдзяў. Сярод найбольш грахоўных маральных заган у прадмове да кнігі «Вторага закону Моісеова» называюцца «убийство, прелюбыдеание, ненависть, татба, несправедливость, злоимание, неволя», таму што яны супярэчаць самой натуры чалавека, скіраваны на тое, каб пазбавіць яго самага дарагога на сьвеце — жыцьця і свабоды.

Францішак Скарына тварыў сваю вялікую справу ў часы, калі адбывалася «абуджэньне нацыянальнасьцей» (К. Маркс), калі актывізавалася фарміраваньне беларускай народнасьці. Побач зь імкненьнем да цэнтралізацыі, умацаваньня ўлады ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзяржаве, этнічна і рэлігійна разнароднай, ажывіліся дэцэнтралісцкія тэндэнцыі, супрацьстаяньне і нават барацьба так званага «рускага» і літоўскага пачаткаў, далейшае размежаваньне якіх рабілася ўсё больш актуальным і пэрспэктыўным. Скарынаўскія выданьні адыгралі якраз вялізарную ролю ва ўмацаваньні «рускіх тэндэнцый у княстве, фарміраваньні беларускай народнасьці і нацыянальнай самасьвядомасьці. Даючы свайму народу, «людем простым посполитым», друкаваную кнігу на роднай мове, заклікаючы іх мець «великую ласку» да сваёй айчыны, не шкадаваць, па прыкладу біблейскай «вдовицы Іудиф», дзеля яе свабоды нават свайго жыцьця, вялікі Палачанін, кажучы словамі акадэміка У. Пічэты, «уводзіў Беларусь у сям'ю славянскіх і эўрапейскіх народаў», «заяўляў аб праве беларускага народу на нацыянальна-культурнае самавызначэньне». Дзякуючы Скарыне Беларусы атрымалі новыя, больш шыя магчымасьці для разьвіцьця сваёй асьветы, літаратуры, далучэньня да агульнаэўрапейскай культуры.

Аднак — о павучальнае дзіва! — страсная любоў Скарыны да свайго народу, да роднай мовы, зь якой яго «Бог на свет пустил», нідзе не перарастала ў нацыянальны эгаізм ці эгацэнтрызм. Паважаючы чалавечую асобу, беларускі першадрукар тым самым аказваў павагу грамадзтву, сукупнасьці людзей, таксама, узвялічваючы «рускій» народ, ён нідзе не абасабняў яго, не супрацьпастаўляў іншым народам, чалавецтву. Наадварот, у прадмовах да Скарынавых выданьняў часта падкрэсьліваецца думка пра роўнасьць народаў і іх моваў. Перад законам, кажа ў тых-жа прадмовах, аднолькавыя «вси народи, буди іудеи или еллини». «Каждый народ» можа абвясьціць сваё «права земская» ці, кажучы сёньняшняй мовай, права на сувэрэнітэт. Такімі-ж раўнапраўнымі зьяўляюцца ўсе «языки, еже суть под солнцем».

Па меркаваньні Скарыны, на такіх-жа роўных правах і ўзаемнай павазе павінны грунтавацца і адносіны паміж дзяржавамі («царствами»). Кожнаму зь іх належыць быць сувэрэнным, адзіным, дастаткова моцным, каб пры неабходнасьці абараніць сваю незалежнасьць, і дастаткова міралюбівым, каб ня крыўдзіць суседзяў. Самы найпершы абавязак грамадзянаў — паважаць сваё «царство», умацоўваць яго, аднак ня чужым коштам. Патрыятызм Скарыны ня меў нічога агульнага з абасобленасьцю, замкнутасьцю, ці, тым больш, зь нецярпімасьцю, агрэсыўнасьцю. Сваімі выданьнямі, сваімі асабістымі кантактамі і вандроўкамі беларускі асьветнік актыўна

*(Працяг на 7-й б.)*

**Сярнук Сокалаў-Воюш**

### КЛЯТВА НА ЧУЖЫНЕ

*Я вярнуся ў краіну маны,*
*Хоць на шыбеніцу вярнуся,*
*Хай ня цешацца марна ЯНЫ,*
*Я ад'ехаў на час зь Беларусі.*
*Я вярнуся ў краіну тугі,*
*Калі зьнікнуць у выраі птахі,*
*Хай там вецер, як лук тугі,*
*Галаву зашпурне да плахі.*
*Хай там з тузін галодных псоў*
*На узьмежжы ашчэрыць іклы,*
*Я вярнуся ў зямлю лясоў,*
*Дзе вярбіны да вод прыніклі.*
*Дзе зьняверанаы лад і люд*
*Між сабою за волю б'юцца,*
*Дзе дажджы, як вясны прэлюд,*
*Што гітарнай струною льюцца.*
*Я вярнуся, бо крыж і сьцяг*
*Над краінай узьняцца мусяць,*
*Я з забытымі да жыцьця*
*Невярнутых вярнуць вярнуся.*

*11 верасьня 1990 г.*
*Клівленд.*

* * *

**Усім маім амэрыканскім сябрам-Беларусам.**

*Ці быў ярлык, які-б на вас не пачапілі?*
*Ці быў праклён, якога-б вам не дасылалі?*
*Маскоўскі Крэмль калоў вас кожным шпілем*
*І сьцены гнеўнай чырваньню палалі.*
*А чырвань гневу нам, як чырвань ганьбы*
*Зрывала зрок, мы апускалі вочы,*
*Шторанку з вамі выглядалі раньня,*
*Цямрэчу ночы прагнучы празрочыць.*
*А недзе там — у вышніх сфэрах сьвету*
*Ужо вялі гаворку нашы душы,*
*Нібы сыйшліся вольныя паэты,*
*Каб у народ супольным збоем рушыць.*
*Сагрэць агні, што ў поглядах застылі,*
*Павесьці люд да волі, шчасьця згоды,*
*Няхай сканаўшы на крамлёўскіх шпілях,*
*Няхай зьнямеўшы ў памяці народу...*

*17-19 верасьня 1990 г.*
*Нью-Ёрк.*

### КРАДЗЕЖ ДАДЗЕНЫХ АБ ЧАРНОБЫЛІ

Брытанскі навуковы часапіс The Lancet (22.IX) зьмясьціў карэспандэнцыю Веры Рыч пра крадзеж у Менску двух камп'ютэраў з дадзенымі аб стане здароўя 670.000 асобаў, што жывуць у ўсходняй частцы БССР. Паўторныя заклікі праз сродкі масавае інфармацыі да зладзеяў з просьбай ня нішчыць дыскаў з мэдычнымі дадзенымі вынікаў не далі. Пасьля арышту зладзеяў дыскі выявіліся блізу поўнасьцяй сьцёртымі. Страта мэдычнай інфармацыі — дадатковы ўдар па людзях, што пацярпелі ад чарнобыльскае радыяцыі.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, прадпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## БЕЛАРУСКАЯ НАРАДА

**Беласток — Белавежа, 5-8.X.90.**

Зь ініцыятывы Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня ў Польшчы адбылася ў Беластоку й Белавежы 5-8 кастрычніка канфэрэнцыя беларускіх палітычных дзеячоў зь Беласточчыны, БССР, а таксама з Варшавы, Вільні, Лёндану, Парыжу, Таронта, Нью-Ёрку й Нью-Брансьвіку. Каля трыццаці асобаў, у тым ліку дэпуты Вярхоўнага Савету БССР, лідэры БНФ «Адраджэньне» абмеркавалі гэткія тэмы: «Дарога Беларусі да незалежнасьці» (дакладчык Зянон Пазьняк), «Гаспадарчая і палітычная сытуацыя Беларусаў Беласточчыны» (Віктар Стахвюк, Сакрат Яновіч, Антон Мірановіч), «Палітыка незалежнай Беларускай Рэспублікі ў дачыненьні да суседзяў» (Яўген Мірановіч, Вінцук Вячорка, Хведар Нюнька), «Роля царквы і культуры ў беларускім адраджэньні» (Юры Хадыка, Міхась Ткачоў), «Стан беларускай гістарычнай навукі» (Анатоль Грыцкевіч), «Роля беларускай эміграцыі і Беласточчыны ў агульнабеларускім адраджэньні» (Янка Запруднік, Юры Туронак, Сакрат Яновіч).

У спрэчках над дакладамі ўзялі ўдзел: Валянтына Трыгубовіч, Янка Максымюк, Алесь Палескі. а. Аляксандар Надсон, Васіль Русак, Ігар Чарняўскі, Валеры Буйвал, Валянтын Сельвесюк, Алесь Суша, Ірына Лазоўская, Сяргей Шупа, Алесь Емельянаў, Лявон Шыманец, Уладзімер Новік, Анатоль Сідарэвіч, Пётра Юшчук.

Была разгледжаная на канфэрэнцыі таксама праблема сувязі паміж адраджэнскім рухам на Беларускіх землях і беларускай эміграцыяй. Каб наладзіць больш апэратыўны абмен інфармацыяй, пастаноўлена стварыць у Беластоку інфармацыйны цэнтар.

Гаварылася на канфэрэнцыі і пра нястачу эканамічнага супрацоўніцтва паміж суседнімі Беласточчынай і Гарадзеншчынай. Рэч у тым, што Беласточчына мае цяжкасьці прадаваць БССР сваю сельскагаспадарчую прадукцыю, хоць тым самым часам Менск (ці Масква?) робіць закупы польскае бульбы у цэнтральных ваяводзтвах Польшчы. Дэпутаты ВС БССР, што былі на канфэрэнцыі, паабяцалі паставіць гэтую праблему перад сваім урадам разам зь іншымі пытаньнямі дыскрымінацыі й пераследу Беларусаў Беласточчыны.

Былі пакладзеныя пачаткі супольнага эканамічнага прадпрыймальніцтва на Беласточчыне з удзелам Беларусаў Захаду і гандлёвых дачыненьняў зь Беларускай Рэспублікай.

На заканчэньне канфэрэнцыі, якая адбылася ў Белавежы, у памешканьні Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку адбыўся канцэрт, на якім вельмі ўдала выступіў новы рок-гурт «Альба Росіка» (пад кіраўніцтвам Янкі Хохі) і 10-гадовая сьпявачка Марта Драль з добрым голасам. Пасьля канцэрту адбылося спатканьне зь беларускай грамадзкасьцяй.

Некаторыя ўдзельнікі канфэрэнцыі, па сканчэньні нарадаў, мелі нагоду сустрэцца з выкладчыкамі й вучнямі Беларускага ліцэю імя Б. Тарашкевіча, іншыя правялі сустрэчы зь іерархамі й сьвятарамі Праваслаўнай Царквы, зь беларускімі раднымі гор. Гайнаўкі; зь кіраўніцтвам камітэту пабудовы ў Гайнаўцы Беларускага музэю.

Арганізатары канфэрэнцыі, кіраўнікі й сябры БДА і БГКТ, шмат працавалі, але, з добрым і, трэба спадзявацца, трывалым вынікам. **Я. З.**

## ПРАВАСЛАЎЕ Й МАНАРХІЗМ

Рэдактар выдаванае ў Менску «Праваслаўнае Думкі» (выйшла 6 нумароў) Ігар Котаў надумаўся зрабіць ад імя свае публікацыі падарунак Праваслаўна-Манархістычнаму Саюзу Расеі. Котаў выдаў асобнай ксэракснай адбіткай «расійскі гімн» «Боже Царя храни». Грошы на выданьне даў сьвятар з г. Жодзіна а. Аляксей Шынкевіч. Котаў замілавана апісвае гісторыю стварэньня гімну, які заклікае расейскага самаўладцу: «Царствуй на страх врагам, Царь православный»...

Апублікаваньне ў Менску гэтай «палітычнай малітвы» паказвае ня толькі на спалітызаванасьць і імпэрскі дух маскоўскага праваслаўя на Беларусі, але й на антыдэмакратызм некаторых дзеячоў «Беларускае» Праваслаўнае Царквы, для якіх чужая ідэя сэпарацыі царквы й дзяржавы, якія ў шматканфэсійнай Беларусі ня бачаць патрэбы рэлігійнай талерантнасьці.

Ігар Котаў і а. Аляксей Шынкевіч былі-б лепшымі хрысьціянамі й дэмакратамі, калі-б выдалі й пашырылі «Малітву», напісаную Натальляй Арсеньневай і Міколам Равенскім.

## ВАРШАВА ЗЬ МЕНСКАМ НЕ ДАГАВАРЫЛІСЯ

Заплянаванага падпісаньня беларуска-польскага пагадненьня не адбылося. Наведаньне ў сярэдзіне кастрычніка Менску польскім міністрам замежных справаў Скубішэўскім, які, паводля Варшаўскага радыё, быў гатовы падпісаць пагадненьне, пазытыўных вынікаў не дало. Беларускі бок у перамовах адмовіўся прызнаць устаноўленую ў 1945 годзе мяжу з Польшчай ды жаліўся на дыскрымінацыю беларускае меншыні ў Польшчы. Польскі-ж бок наракаў на цяжкасьці, якія маюць Палякі ў БССР практыкаваць сваю рэлігію.

Як стала ведама рэдакцыі «Беларуса», на сустрэчы са Скубішэўскім лідэр парлямэнтарнае апазыцыі і старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк, пасьля таго як Скубішэўскі пачаў гаварыць пра «Польскую Царкву ў Беларусі», сказаў гасьцю, што ў Беларусі няма «польскае» царквы, а ёсьць рымакаталіцкая. Пры гэтым быў прысутны таксама міністар замежных справаў Беларусі Пётр Краўчанка.

Міністар Скубішэўскі, як падала беластоцкая Gazeta Współczesna (19-21.X) сказаў, што перамовы зь Беларусамі будуць працягвацца. Польская прэса, якая паклала націск на «правал» перамоваў, паводля Скубішэўскага «нарабіла неразумнай панікі».

## БЕЛАРУСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ ГРАМАДА

На сходзе Менскай каталіцкай грамады 16 чэрвеня сёлета быў створаны Арганізацыйны камітэт зь 15 асобаў з мэтай заснаваньня Беларускай Каталіцкай Грамады. Аргкамітэту даручана распрацаваць статут, праграму ды правесьці ўстаноўчы зьезд БГК. Пра ідэйны кірунак створанай арганізацыі сьветчыць адозва, у якой, між іншага, чытаем:

«Антыгуманная сыстэма дзеля расколу народу, яго дэнацыяналізацыі і канчатковага зьнішчэньня заахвочвала ўжываньне чужых моваў у царкве і касьцёле. Усялякія спробы ўжытку беларускай мовы ў канфэсійным жыцьці ўлады сустракалі варожа, а каталіцкія і праваслаўныя сьвятары пад палітычным уплывам суседніх дзяржаваў падзялілі беларускі народ на «палякоў» і «рускіх». Нават памерлы Беларус ужо назаўсёды атрымлівае надмагільны крыж або камень з рускім ці польскім надпісам. Беларускі народ апынуўся на мяжы свайго духоўнага выраджэньня.

«Зараз, калі Беларускі Народны Фронт ужо другі год вядзе барацьбу за людзкое і боскае выратаваньне беларускай нацыі, беларускае Хрысьціянства таксама павінна стаць на бок адраджэньня Айчыны. Тут місія хрысьціянства мусіць стаць вызначальнай.

«Браты і сёстры! Каталікі і праваслаўныя! Дзеці зямлі Беларускай! Нас доўга разьядноўвалі бар'еры збудаваныя ня намі. Нас доўга разьядноўвалі догмы і нават чужыя мовы. Сёньня нас павінна аб'яднаць ідэя Адраджэньня Бацькаўшчыны, нас павінна аб'яднаць беларуская мова, мова нашых продкаў, мова Полацкай Дзяржавы і Вялікага Княства Літоўскага, мова вялікіх Альгерда і Вітаўта, Скарыны і Купалы. Мы можам належаць да розных канфэсій, але нас лучыць адзіны Бог, адзіная Беларусь».

Адозва Аргкамітэту БКГ падае гэткі кантактны тэлефон у Менску: 62-73-43 (ад гадзіны 22.00 да 22.30, Астаповіч Антось Уладзіміравіч) і два адрасы:

220116, Менск. Паштовая скрынка № 59 БКГ.

220007, Менск. Паштовая скрынка № 21 БКГ.

## «ПАКІДАЮЦЬ НАМ АДЗІН БРУД»

Народны дэпутат БССР Уладзімер Заблоцкі, удзельнік перамоваў у Маскве аб Саюзным дагаворы, сказаў карэспандэнту «ЛіМ» (14.IX.90) пра «карысьць», якую мае Беларусь ад падпарадкаванасьці саюзным бюракратам:

«У нашай рэспубліцы 54 працэнты ўсёй прамысловай вытворчасьці — саюзнага падначаленьня. Гэта нонсэнс, бо Беларусь ад тых 'маскоўскіх' заводаў мае самую мінімальную карысьць. Забіраючы сабе львіную долю прыбытку, цэнтральныя міністэрствы і ведамствы пакідаюць нам адзін бруд, зьнішчанае прыроднае асяродзьдзе».

### ВАЛЭНСА «КАХАЕ» «КРЭСЫ»

Кандыдат ад «Салідарнасьці» на прэзыдэнта Польшчы Лех Валэнса на сустрэчы з работнікамі варшаўскай гуты заявіў, што «як прэзыдэнт ён дапільнуе, каб кожны Паляк мог дасягнуць да земляў Другой Рэчыпаспалітай на ўсходзе (г.зн. тых беларускіх і украінскіх земляў, якія Палякі называюць «Крэсамі Ўсходнімі» — рэд. «Б-са»), бязумоўна, без змаганьня ці вайны. Там ёсьць польская культура і традыцыя. Як шмат хто з вас, — сказаў Валэнса варшаўскім сталеварам, — я таксама кахаю гэтыя землі». — Gazeta Wyborcza, 10.X.90.

## *ПРЫВІТАЛЬНЫ ЛІСТ З. ПАЗЬНЯКУ*

Беларускі Кангрэсавы Камітэт паслаў Зянону Пазьняку, старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту наступны прывітальны ліст:

Яго Міласьці
Спадару Зянону Пазьняку
Старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту
Дэпутату Вярхоўнага Савету Беларускай ССР

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі шле Вам шчырыя прывітаньні з нагоды праробленай Вамі вялікай працы, вынікам якой было прыняцьце Вярхоўным Саветам Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР.

Верым, што гэтая Дэклярацыя будзе адным зь першых крокаў на шляху аднаўленьня поўнае незалежнасьці Беларусі ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай Радай БНР 25 сакавіка 1918 году.

Жыве Беларусь!
17 верасьня 1990 г.
**Расьціслаў Завістовіч**

## НЯПРЫСТОЙНАСЬЦЬ «КОММУНИСТА БЕЛОРУССИИ»

Рэдакцыя «Коммуниста Белоруссии», тэарэтычнага й палітычнага органу ЦК КПБ, адзначыла 500-я ўгодкі ад нараджэньня Франьцішка Скарыны «крадзеным», бо не пакітаваным, матар'ялам. Матар'ял узяты з 18-е кнігі «ЗАПІСАЎ Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва».

Студзеньскі нумар «КБ» зьмясьціў невялікі беларускамоўны матар'ял «Скарынаў каляндар і каляндарная сыстэма Беларусі яго пары». Факт ушанаваньня Скарыны, бязумоўна, справа добрая. Пагана тое, што «КБ», дакладней кажучы, ягоны рэдактар В. (Ул.?) Вялічка не захацеў прызнацца, адкуль ён гэты матар'ял узяў. А ўзяў яго Вялічка з кніжкі, што была падораная яму ў лістападзе летась у Канадзе, дзе ён суправаджаў танцавальны ансамбль «Сьвята». У 18-й кнізе «Запісаў» (гл. рэцэнзію мянчаніна Анатоля Белага ў «Беларусе» № 366) зьмешчанае грунтоўнае, упартую праведзенае дасьледаваньне Скарынавага календары. Аўтар дасьледаваньня — др. Вітаўт Тумаш. Хоць др. Тумаш прарабіў валатоўскую працу ў вывучэньні жыцьця й дзейнасьці Ф. Скарыны, у савецкіх публікацыях факт гэты, як правіла, замоўчваецца. Партыйная цэнзура ў Менску дасюль трымае табу над шмат якімі дасягненьнямі эміграцыйнае беларусаведы. Тым часам як у Маскве публікуюцца гэткія расейскія эміграцыйныя апазыцыянеры партыйнае дыктатуры, як А. Салжаніцын, Д. Сіняўскі, Максімаў ды іншыя, менскія перастрахоўшчыкі ўсё яшчэ баяцца называць у дадатным кантэксьце прозьвішчы беларускіх замежных дасьледнікаў. Партапаратчыкі Вандэі выбіраюць лепш рэпутацыю дробных ашуканцаў, чымся рызыку канфрантацыі зь якім-небудзь рэакцыйным начальнікам або проста са сваім собскім заскарузлым сумленьнем. У Купалавым вершы «Перад будучыняй» (1922 г.) ёсьць добрая характарыстыка гэткіх «выкрыўленых душаў», у катэгорыю якіх, на жаль, запісаў сябе й рэдактар «КБ» Вялічка.

Мы з задаваленьнем адзначаем факт, што апошнім часам пачасьціліся выпадкі, калі афіцыйныя прадстаўнікі БССР прызнаюць дасягненьні эміграцыйнае скарынаведы, але гэткія прызнаньні ў савецкім друку яшчэ рэдкія.

**А. Загорны**

Сяржук Сокалаў-Воюш

# БУДЗЕМ ШУКАЦЬ
*або*
# АДКРЫТЫ ЛІСТ ПІСЬМЕНЬНІКУ А. САЛЖАНІЦЫНУ

**«Ці вы думаеце, што я прыйшоў даць мір зямлі? Не, кажу вам, але разьдзяленьне...»** (Евангельле ад Лукі, 12:51).

Паважаны Аляксандар Ісаевіч!

Я ня так добра ведаю рускую мову і ейную граматыку, але, думаю, што думкі свае змагу выкласьці слушна і на гэтай чужой для мяне мове.

Я — шчыры прыхільнік Вашага таленту. Прыгадваю сёньня, як яшчэ гадоў пятнаццаць таму патаемна перадаваў сябрам для прачытаньня добра зашмальцаваную ад соцен рук Вашую кнігу «Один день Ивана Денисовича», як уважліва ўтчытваўся ў кожнае слова «Архипелага...» і адчайна круціў ручку наладкі прыймача, каб праз перашкоды глушылак пачуць чарговую частку Вашае кнігі «Бодался теленок с дубом».

«Владимир Ильич был в эмиграции. Но он зорко следил за тем, что происходит в России, знал ее боли и радости, видел пути развития», казаў на лекцыях гісторыі ў школе мой бацька. Што з гэтага «знания и видения» атрымалася — ня мне Вам казаць. Артыкулы, напісаныя «Ілічом-першым», жадаем мы таго ці не, сваю справу зрабілі. Менавіта таму я малю Бога, каб не зрабілі сваёй справы там-жа самá Вашыя «посильные соображения 'Как нам обустроить Россию'», хаця ў іх шмат добрага, патрэбнага і карыснага.

«І вось за выключэньнем гэтых дванаццаці (маюцца на ўвазе 12 савецкіх рэспублік — С.-В.), толькі і застаецца тое, што можна назваць *Русь*, як называлі здавён (слова «рускі» стагодзьдзямі ахоплівала Маларосаў, Вялікаросаў і Беларусаў), або — Расія (назва з XVIII стагодзьдзя), або, у дакладным сэньсе цяпер: Савецкі Саюз», сцьвярджаеце Вы. Даруйце, калі ласка, але мяне як Беларуса ўражвае і ў нейкім сэньсе нават абражае такая Вашая дзіўная недасьветчанасьць у пытаньнях гісторыі. Тое, што Вы называеце словам Русь ніколі (!) ня было адзінай дзяржавай ні палітычна, ні эканамічна, ні, тым больш, этнічна. І калі гаварыць пра тое, як «обустроить Россию», то мне, прабачце, ня зусім зразумела пры чым тут Русь, якая, як ведама, у старажытнасьці была ня Полацкай ці Маскоўскай, а Кіеўскай.

Вы не гаворыце пра тое, як «обустроить» славянскія землі былога СССР. Вы гаворыце пра тое, як «обустроить» Расію і дзеля гэтага «обустройства» *Расіі* Вам патрэбныя Ўкраіна і Беларусь, блізкія да Расіі ў моўных адносінах і таму зручныя для глытаньня. Мне цалкам зразумела, што Вы вырашаеце тэй чынам лёс двух народаў так, як і ўсе, хто спрабаваў прапанаваць шлях «обустройства» Расіі ў мінулым, забываючыся запытацца ў саміх гэтых народаў. Вы дзейнічаеце так, як некалі дзейнічалі камуністы, якія, не запытаўшыся ў Беларусаў, падзялілі адночы маю Радзіму на Ўсходнюю і Заходнюю. Што-ж, мэтады знаёмыя. Ды і што ў іх (Беларусаў) пытацца! Вечныя малодшыя браты! Ну што яны могуць без старэйшага? Куды безь яго прыйдуць?

А між тым мы выдатна ведаем, куды яны прыйшлі зь ім і як ішлі «разам». Ці гэта ня рускі цар Іван Васілевіч Грозны, «вызваліўшы» Полацак, адразу-ж вызваліў яго ад палачанаў, кідаючы пад лёд Дзьвіны сотні абаронцаў гораду? Ці гэта ня літоўскі князь Вітаўт (а Беларусаў у той час называлі Ліцьвінамі, бо продкі цяперашніх Літоўцаў былі Жмудзякамі) няспынна ваяваў з Маскоўскай дзяржавай? Ці гэта ня граф Мураўёў патапіў у крыві паўстаньне Кастуся Каліноўскага? Ці ня рускі цар забараніў у мінулым стагодзьдзі маю мову і саму назву «Беларусь»? А можа ня рускія палкі бясслаўна палеглі ў сечы пад Воршай ад рук беларускіх вояў пад кіраўніцтва літоўскага (беларускага) князя Кастуся Астрожскага? Ну ды хопіць, Бог зь ёй зь гісторыяй. Як кажуць у Расіі: хто старое згадае, таму вока вон...

Але вось ужо не старое, а новае — тое, што было зусім нядаўна, уваходзіць у поле нашага зроку. Я — вучань сярэдняй *беларускай* школы, а выкладаньне ў ёй вядзецца па-руску. Я — студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсытэту, дзе на адзьдзяленьні беларускай філялёгіі навучаньне таксама на «великом и могучем языке», а я за сваю «маленькую і слабенькую мову» — ледзь не нацыяналіст. Я — бацька, сын якога ідзе ў школу на цэлы год пазьней, таму што менавіта столькі часу спатрэбілася мне і маім сябрам, каб дамагчыся ў горадзе Новапалацку клясы (ня школы!) зь беларускай мовай навучаньня. Прыклады можна падаваць да бесканцовасьці, але ці варта? Ці ня лепш было-б Вам заняцца «обустройством» Расіі, не кранаючы іншыя народы? К[illegible] мы пасьля выхаду з Савецкага Саюзу адчуем неадольнае імкненьне нашых народаў да яднаньня і ўбачым, што жыць нам аднаму бяз другога немагчыма, то напэўна якнебудзь знойдзем шляхі, што прывядуць нас у адну дзяржаву. Але гэта ўжо будзе воля свабодных нацыяў, заснаваная на зусім іншых крытэрыях, а ня больш чым сумлеўнай тэзе адвечнага адзінства, або, створанага Вамі на ўзор і падабенства камуністычнага савецкага патрыятызму, цалкам прыдуманага і ніколі не існаваўшага адзінага рускага патрыятызму для Беларусаў, Украінцаў і Рускіх. Усё гэта ня больш як імпэрскія амбіцыі, якімі Вы прыніжаеце нашыя, а перад усім свой народ.

Напісаўшы «Слово к украинцам и белорусам», Вы, па сутнасьці, паразмаўлялі толькі з аднымі Ўкраінцамі. Гэта напэўна таму, што Беларусы — народ «кроткий» і гаварыць з «рахманымі» няма пра што. Іх адарвалі ад «адзінай і непадзельнай» мангольскае нашэсьце ды польская калянізацыя. Мне шчыра шкада, што Вы забыліся пра тое, як яшчэ да ўсялякіх нашэсьцяў і калянізацыяў Полацкае княства, ці, як яго яшчэ называлі, Полацкая Зямля, першай вылучылася з гэтак званай Кіеўскай Русі і на працягу ўсёй сваёй гісторыі адстойвала сваю незалежнасьць. Вы забыліся, як полацкі князь Усяслаў Чарадзей, якога кіеўцы пасадзілі на свой вялікакняжацкі стол, пакінуў Кіеў і вярнуўся на Радзіму, бо ўжо тады добра ўсьведамляў розьніцу паміж Полацкам і Кіевам. Вы забыліся, як за тую-ж саму незалежнасьць ваяваў гэты беларускі князь зь Вялікім Ноўгарадам.

Зьмяшаньне славянскае і балцкае крыві ды культуры нарадзіла беларускі народ, гэтак сама як рускі народ нарадзіла зьмяшаньне крыві і культураў славянскае, вугра-фінскае і татара-мангольскае. Добра вядомы зь дзяцінства «прищур глаз» Іліча-першага — вынік гэтага зьмяшаньня.

«У Літве і Польшчы Беларусы і Ма-

*(Працяг на 7-й б.)*

# «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАРУСІ

***(Працяг інтэрв'ю зь сябрамі танцавальнага гуртка «Васілёк», які сёлета гасьцяваў на Беларусі. Пачатак гл. у «Беларусе» № 372.)***

**Юрка Кіпель:** У Маскве нас сустрэла група Беларусаў — пераважна сябры маскоўскае арганізацыі — Беларускага Таварыства імя Францішка Скарыны ды некалькі прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту зь Менску. Сустрэліся мы там і зь Міхалам Кукабакам. Сустрэча была вельмі цёплай, сяброўскай. На жаль, я ня меў шмат часу, каб пабыць з маскоўскімі Беларусамі, бо мусіў бегчы ў розныя адміністрацыйныя ўстановы на аэрапорце, каб абладзіць справу нашага багажу — некалькі сотняў кіляграмаў мэдыкамэнтаў, якія мы прывезьлі для шпіталёў, для хворых дзяцей. У міжчасе нашая група паехала аглядаць Маскву, а я, Алла й Алеся паехалі да прафэсара Аўгена Шыраева, які нас запрасіў да сябе, пачаставаў нас ды расказаў нам пра жыцьцё і дзейнасьць Беларусаў у Маскве.

«Васілёк» хутка ад'ехаў у Менск, а я застаўся, каб дапілнаваць перавоз багажа. Пазьней, пры дапамозе і прафэсара Шыраева, і іншых Беларусаў справа была абладжаная.

У Менску мне, як дзіцячаму доктару, найбольш цікава было наведаць шпіталі. І з нашымі мэдыкамэнтамі мы наведалі некалькі шпіталёў. Гэта былі вельмі хвалюючыя й цяжкія мамэнты: хворых вельмі шмат, лякарстваў няма, дзеці паміраюць. Няма магчымасьцяў лячыць іх навейшымі спосабамі, якія даступныя ў амэрыканскіх шпіталёх. У дзяцей рак — усялякія віды раку, але цяпер асабліва рак крыві. За пару гадоў пачне пераважаць рак касьцей і мяккіх тканак у нырках, лёгкіх, мазгах. Гэта страшная трагедыя. Нашыя мэдыкамэнты — толькі кропля ў моры. Але нашая ўвага, нашыя спачуваньні — гэта вялікая падтрымка. Людзі ведаюць, што нашыя сэрцы зь імі, і наш беларускі і чалавечы абавязак — памагаць ім чым можам. На мой пагляд, што было-б найбольш эфэктыўным цяпер — гэта перасяляць беларускае жыхарства з забруджаных радыяцыяй раёнаў у чыстыя зоны. Уся энэргія павінна была-б быць скіраваная на гэта.

**Вера Запруднік:** У мяне склалася ўражаньне, што хоць у іх жыцьцё цяжэйшае, але прасьцейшае. Гэтым разам я старалася як мага больш гаварыць зь людзьмі, хоць мы былі вельмі занятыя. Мушу сказаць, што ў Беласточчыне мы неяк мала гутарылі зь людзьмі. У гутарках я зразумела, што людзі ў БССР не разумеюць нашых свабодаў. Ім цяжка зразумець, што мы самі адказныя знайсьці сабе працу, наладзіць сваё жыцьцё. Там-жа ім з маленства кажаца, штó чалавек мае рабіць. Людзям там таксама цяжка ўявіць стандарты нашага жыцьця. Па дарозе са Стоўбцаў у Мір мне давялося ехаць самой, гэта дало мне магчымасьць пагаварыць зь людзьмі сам-насам. Пазнаёмілася зь кельнэркай. Разгаварыліся. Я сказала ёй, што мы жывём за горадам, дык першае пытаньне да мяне было, ці мы маем карову ды іншую жывёлу. Наагул, на нашую мерку пытаньні іх былі дзіўныя. На маё-ж пытаньне, ці ім стала цяпер лягчэй жыць, мая знаёмая адказала, што жывецца цяжэй. Праўда, яны спадзяюцца, што палягчэе. Думае таксама, што яны ўсё-ж звыкнуцца з тым, што ім давядзецца думаць аб усім самым. Найцяжэйшае-ж пытаньне для мяне было, калі ў мяне спыталіся, ці хацела-б я там жыць...

**Віктар Тур:** Мне было цікава пабачыць мясьціны, дзе нарадзіліся мае бацькі. Але найболей мяне ўразілі Курапаты. Наведаньне Курапатаў для мяне было як-бы сымбалічным — мой дзед быў вывезены ў Сібір, — дык наведаньне Курапатаў кранула за душу. Другое, што таксама моцна й балюча ўзварушыла — гэта наведаньне шпіталёў з хворымі дзецьмі. Вельмі трагічна.

Самае пыемнае ўражаньне зрабіла наведаньне Вільні. Я нарадзіўся й вучыўся ў Лёндане. У беларускай школе там нам шмат расказвалі пра Вільню, пра Скарыну, пра Каліноўскага. І вось у Вільні я хадзіў па іхных сьлядох. Чуўся яшчэ большым беларускім патрыётам. Для Беларусі цяпер вялікая праблема — гэта адраджэньне беларускай мовы, нацыянальнае сьведамасьці, гонару. На Беларусі мы спатыкаліся з рознымі людзьмі: гарачымі патрыётамі радзімы, асобамі нявыразнымі ды людзьмі зусім нясьведамымі. Шмат бачылі і такіх, што не валодалі нашай мовай, але былі сьведамымі Беларусамі. Мая вялікая пашана й захапленьне тымі, хто цяпер працуе для беларускае справы.

**Аня Бартуль:** Беларусь для мяне заўсёды была нечым недасягальным. Першыя два дні я праплакала: такое было моцнае ўражаньне першага спатканьня зь Беларусяй. Калі-ж спаткалася зь сям'ёй, праплакала зноў цэлы дзень.

Уражаньне ад Менску даволі дзіўнае. Спадзявалася пабачыць больш гістарычных мясьцінаў, а ўбачыла новы горад, на маю пачатковую думку, даволі няпрыгожы. Праўда, я неяк выпусьціла з галавы, што ў вайну Менск быў цалкам зруйнаваны. Усьведаміўшы гэта, пачала глядзець інакш. Мела памылковае ўражаньне, што ў Менску ўсе гутараць па-расейску. Тым-жа часам чулася і мова беларуская. З тымі-ж людзьмі, зь кім мы мелі дачыненьне, гаварылі толькі па-беларуску. У часе нашага пабыту на Беларусі мы сапраўды моцна пасябравалі з шырокім колам моладзі — маем сяброў у шмат якіх мясцовасьцях. Прыкрае ўражаньне на нас рабілі чэргі, пустыя магазыны. Думала: ня лёгка жывецца на Беларусі. Гэтаксама думка не давала супакою: як людзі абыходзяцца з часам, час-жа такі дарагі, а яны гэтулькі губляюць яго зусім непрадуктыўна. Адны чэргі чаго вартыя! Пад гэтым паглядам, у нас у Амэрыцы жыцьцё выразна іншае. Прыехала я дахаты зусім іншым чалавекам. Я зразумела, штó больш важнае ў жыцьці, і я цяпер, бясспрэчна, куды ляпей разумею сваіх бацькоў.

**Алеся Кіпель:** Першае ўражаньне ад гораду маіх бацькоў і дзядоў — Менску — шмат прыемнейшае, як ад Маскве. Менск чысьцейшы, зелянейшы, прыгажэйшы. Выглядае лепей, як я спадзявалася. Я ўжо думала, што будзе так, як у Маскве — цымэнтныя блёкі, — а тут і паркі, і вазёры, і даволі прыгожыя мадэрныя будынкі. Пасьля, пабачыўшы другія гарады — Полацак і Гародню, — я сабе лепш магла ўявіць, як выглядала Беларусь у гісторыі. У Менску такога ўражаньня, праўда, на жаль, ня было. Крыху мы адчулі й пабачылі гісторыі, як адведалі Музэй этнаграфіі й гісторыі. Там мы пабачылі і старыя іконы, і царскія вароты, і слуцкі пояс, безьліч касьцюмаў, ручнікоў, паясоў. Вельмі шмат рэчаў у фондах-сховішчах. Рэчы гэтыя — вялікая каштоўнасьць, але накіданыя, састаўленыя бязь ніякага парадку. Шмат рэчаў царкоўнага ўжытку з музэю адыходзіць, як адчыняюцца новыя цэрквы, — яны хочуць свае рэчы назад. Мяне зьдзівіла, што ў музэі сабра-

*(Працяг на 6-й б.)*

# СКАРЫНАЎСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЗША

## У АБ'ЕДНАНЫХ НАЦЫЯХ

У аўторак 25 верасьня ў памешканьні бібліятэкі ААН, у Клюбе расейскае кнігі (старшыня клюбу — сп. Аляксандар Тубалец, пісьмовы перакладчык у Сакратарыяце ААН), адбыўся вечар на ўшанаваньне 500-годзьдзя ад нараджэньня Францішка Скарыны. На вечар, арганізаваны зь ініцыятывы Беларускае місіі пры ААН, прыбыло больш за 300 асобаў, сярод іх шмат мясцовых Беларусаў. Быў на вечары і прэм'ер Беларускай БССР Вячаслаў Кебіч, а таксама міністры замежных справаў Беларусі, Украіны, Казахстану. З гор. Манрэалю з Канады прыехаў госьць др. Станлі Скарына, нашчадак беларускага перашадрукара.

Праграму вечара вёў сп. Тубалец, ёнжа быў і перакладчыкам зь беларускае ў ангельскую. Прывітаўшы гасьцей, ён прачытаў з пастановы ЮНЭСКО аб ушанаваньні 500-гадовага юбілею Ф. Скарыны, прадставіў міністра замежных справаў БССР Пятра Краўчанку. Сп. Краўчанка, прамаўляючы пабеларуску, сказаў, што ён выступае ня толькі як міністар, але й як старшыня камітэту па падрыхтоўцы й правядзеньні скарынаўскага юбілею ў горадзе Менску. Ён расказаў, як прайшлі, або яшчэ пройдуць юбілейныя сьвяткаваньні ў Беларусі, Амэрыцы, Парыжы, Кракаве, Падуі. Сп. Краўчанка адзначыў «трагізм і веліч Скрыны, што пераклікаецца нейкім чынам з трагізмам і велічай беларускай нацыі». Пра скарынаўскі вечар у Нью-Ёрку сп. Краўчанка сказаў, што ўрачыстасьць гэтая «ў нейкім сэньсе кладзе пачатак новых адносін паміж і амэрыканскай грамадзкасьцю і нашай нацыянальнай эміграцыяй».

З кароткім словам пра юбіляра выступіў акадэмік Адам Мальдзіс, адзін зь першых лаўрэатаў Скарынаўскага мэдаля і старшыня аргкамітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, установчы зьезд якое мае адбыцца ў Менску ў травені 1991 году.

Перайшоўшы зь беларускае на ангельскую мову, праф. Мальдзіс выказаў задаваленьне, што з нагоды скарынаўскага юбілею «зарадзілася ідэя стварыць Беларускую сэкцыю ў Клюбе расейскае кнігі» ды выказаў надзею, што сэкцыя гэтая «ў належным часеператворыцца ў незалежную адзінку». Гэтай «адзінцы» Мальдзіс і перадаў свой асабісты падарунак — кнігі Скарыны і пра Скарыну, у тым ліку й ягонага, Мальдзісавага аўтарства. Слухачы прывіталі гэтую ініцыятыву дружнымі воплескамі.

З кароткай прамовай выступіў таксама др. Станлі Скарына, удзельнік скарынаўскіх урачыстасьцяў, што адбыліся ў верасьні сёлета ў Менску й Полацку. Вялікае ўражаньне зрабіла на яго ў Беларусі, сказаў ён, «жыцьцяздольнасьць беларускага народу, дзякуючы якой Беларусы здолеюць перамагчы ўсе цяжкасьці на сваім шляху».

Др. Ст. Скарына перадаў у падарунак Беларускай сэкцыі клюбу кружэлку з музыкай, якую ён напісаў (пад псэўданімам) для свае жонкі.

Пасьля паказу англамоўнага фільму пра Францішка Скарыну пяцёра артыстаў ансамблю «Жывіца» (кіраўнічка Валянтына Пархоменка) далі канцэрт беларускае музыкі й песьняў — «мэлёдыі сьвятой беларускай зямлі», як сказала В. Пархоменка. Зь дзвюма песьнямі пад гітару выступіў таксама бард Сяржук Сокалаў-Воюш, які перадаў прысутным прывітаньне ад жыхароў Скарынавага і свайго роднага Полацку.

Вечар закончыўся прыняцьцём, у часе якога госьці мелі нагоду азнаёміцца з цудоўнымі абразамі братоў Уладзімера й Міхася Басалыгаў ды пад добрую чарку з закускай шчыра пагутарыць у шмат свабаднейшай цяпер атмасфэры амэрыканска-савецкага зблізкэньня.

**Я. З.**

## ГОСЬЦІ ЗЬ МЕНСКУ Ў ФУНДАЦЫІ П. КРЭЧЭЎСКАГА

У Нью-Ёрку ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага 29 верасьня дэлегат БССР на Генэральнай Асаблеі ААН, акадэмік і пісьменьнік Адам Мальдзіс выступіў з дакладам пра Францішка Скарыну і Уладзімера Караткевіча. Вітаючы сп. Мальдзіса і прысутнага на залі шэфа Беларускай місіі пры ААН Генадзя Бураўкіна ад імя беларускіх арганізацыяў, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Масацтва др. Вітаўт Кіпель прыгадаў некаторыя мамэнты з сустрэчаў з прадстаўнікамі БССР на працягу апошняга 30-годзьдзя і з задаваленьнем адзначыў тую новую атмасфэру, у якой адбываюцца падобныя сустрэчы нашымі днямі.

Др. А. Мальдзіс гаварыў пра двух юбіляраў сёлетняга году — Францішка Скарыну і Ўладзімера Караткевіча (нар. 26.XI.1930). Адзначыўшы, што пра Караткевіча «сёлета ўсё яшчэ замала гавораць», дакладчык сказаў, што гэтыя пісьменьнік «увасоціць у тую непасрэдную лінію разьвіцьця беларускага народу, беларускае нацыі, якая пачыналася ад Скарыны, працягвалася праз Каліноўскага, Багдановіча, Купалу і доўжылася ўжо ў нашы часы ў асобе Ўладзімера Караткевіча, доўжыцца сёньня ў асобе Васіля Быкава і іншых дзеячоў, цесна зьвязаных зь Беларускім Народным Фронтам, і ня толькі — з Таварыствам Беларускай Мовы, зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі, якія цяпер зьявіліся, дзякуючы тым пераменам, што адбыліся ў нашым жыцьці».

Пасьля дакладу, на які прыбыло шмат зацікаўленых суродзічаў, у тым ліку моладзі, сп. Мальдзіс адказаў на шматлікія пытаньні, а таксама перадаў Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва свае публікацыі, прысьвечаныя Скарыну і Караткевічу ды дыван з партрэтам Скарыны.

**Я. З.**

## У НЬЮЁРКСКАЙ ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Вечар 3-га кастрычніка ў Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы быў вельмі ўрачысты — прадстаўнікі Беларускай ССР уручылі бібліятэцы партрэт Францішка Скарыны (работы У. Стальмашонка) ды скарынаўскі мэдаль. На ўрачыстасьці былі дырэктар бібліятэкі сп. Пол Фэзана, кіраўнікі розных адзьдзелаў, кіраўнікі беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў ды іншыя госьці. Адчыняючы ўрачыстасьць, сп. Пол Фэзана сказаў: «Нашая бібліятэка не ўпяршыню адзначае ўгодкі Францішка Скарыны. 22 гады таму, калі мы сьвяткавалі 450-я ўгодкі беларускага кнігадруку, мы моцна падкрасьлялі значаньне Скарыны ня толькі для Беларусі, але і для Ўсходняе Эўропы і ўсяго чалавецтва. Дарэчы, — падкрэсьліў сп. Пол Фэзана, — і тады мы выдатна супрацоўнічалі і зь Беларускай місіяй пры ААН, і зь іншымі дыпляматамі».

Загадчык Славянскага адзьдзелу Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі сп. Эдуард Касінец адзначыў, што скарынаведная калекцыя бібліятэкі — самая поўная на Захадзе і што ніводзін скарынавед ня можа абыйсьціся бязь ньюёркскіх кнігазбораў. Сп. Касінец таксама падкрэсьліў, што ў разбудове беларускае калекцыі асноўную ролю адыгралі гэткія спэцыялісты, як сп-ня Зора Кіпель і іншыя.



*Пераданьне партрэту Ф. Скарыны Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы. Зьлева: Алег Пашкевіч, намесьнік пастаяннага прадстаўніка БССР пры ААН, Пётр Краўчанка, міністар замежных спраў БССР, Эдуард Касінец, загадчык Славянскага адзьдзелу бібліятэкі, Зора Кіпель, намесьнік загадчыка Славянскага адзьдзелу бібліятэкі. Фота Надзі Кудасавай.*

Сп-ня Зора Кіпель, намесьнік загадчыка Славянскага адзьдзелу бібліятэкі, зрабіла даклад прысьвечаны гісторыі разбудовы беларускае калекцыі, даўшы ўпяршыню ці мала дакумэнтальных і статыстычных дадзеных, як прыкладам дагаворы паміж бібліятэкай і Інстытутам Беларускай Культуры ў Менску аб кнігаабмене. Цяпер у бібліятэцы ёсьць каля 7-х тысячаў кніжак у беларускай мове.

Прадстаўнік БССР праф. Адам Мальдзіс у сваім выступленьні вельмі вычарпальна паінфармаваў прысутных аб скарынаўскіх сьвяткаваньнях у БССР, расказаў пра пляны выдавецтваў Беларусі ў галіне скарыназнаўства. Сп. Мальдзіс уручыў бібліятэцы вялікі падбор скарыназнаўчае літаратуры.

Міністар замежных справаў БССР сп. Пётр Краўчанка гаварыў пра стадыі, якія прайшло скарыназнаўства ў БССР ды, як і Мальдзіс, сказаў, што цяпер савецкія скарыназнаўцы поўнасьцю карыстаюцца скарынаведнымі працамі заходніх дасьледнікаў, выданьнямі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, ды што ён асабіста вельмі задаволены, што і ў ягонай прыватнай калекцыі ёсьць кніга «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны», выдадзеная летась БІНіМам.

Пасьля ўручэньня міністрам Краўчанкам і сп-няй Юляй Бураўкінай дароў бібліятэцы, праф. Томас Бэрд, які вёў урачыстасьць, падзякаваў за шматгадовае і карыснае супрацоўніцтва сп. Алегу Пашкевічу, намесьніку пастаяннага прадстаўніка БССР пры ААН, ды сп. Генадзю Бураўкіну, новаму пастаяннаму прадстаўніку, ініцыятару ўрачыстасьці, які, на жаль, з прычыны сьмерці бацькі быў у вымушаным ад'езьдзе ў БССР.

Урачыстасьць закончылася агляданьнем спэцыяльна падрыхтаванае выстаўкі скарынаведнае літаратуры.

**В. З.**

## КВІНСКІ КАЛЕДЖ УШАНОЎВАЕ СКАРЫНУ

У сераду 10-а кастрычніка ў Квінскім каледжы, што становіць частку Ньюёркскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту, Адзьдзел славістыкі арганізаваў вечар, прысьвечаны беларускаму першадрукару, гуманісту й асьветніку Францішку Скарыну. Праф. Томас Бэрд вітаў запрошаных на вечар прадстаўнікоў БССР, дэлетаў Генэральнай Асамблеі ААН, міністра замежных справаў Пятра Краўчанку, акадэміка Адама Мальдзіса, сп-ню Юлію Бураўкін (муж якой быў выехаўшы ў Менск у сувязі са сьмерцяй бацькі), сп. Аляксандра Тубальца, сяброў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, мясцовых Беларусаў, студэнтаў.

Сп. Краўчанка расказаў пра складаныя абставіны, у якіх праходзіла шуканьне ідэі, матэр'ялаў для выпрацаваньня праекту помніка Францішку Скарыну ў Менску (у 1988 г. Бюро ЦК КПБ прыняло пастанову аб збудаваньні такога помніка) да пабудовы якога аднак так і не дайшло. Са словаў Міністра рабілася ясна, што русыфікацыя — гэта ня толькі вынішчэньне мовы, гэта таксама зьнішчэньне й нацыянальнага духу, інтэлекту, безь якіх ня можа квітнець нацыянальнае мастацтва.

Акадэмік і плённы дасьледнік жыцьця й эпохі Францішка Скарыны Адам Мальдзіс у сваім дакладзе зрабіў цікавую спробу правесьці паралель паміж Скарынам і Калюмбам: першы адкрыў для Беларусі Эўропу, а другі — для Эўропы Амэрыку. 500-годзьдзе Калюмбавага адкрыцьця будзе шырака адзначацца ў 1992 годзе.

Вечар скончыўся супольным пачастункам, у часе якога гаварылася пра новыя магчымасьці супрацоўніцтва паміж беларусаведамі на Бацькаўшчыне й на эміграцыі. Сп. Краўчанка запрасіў амэрыканскіх суродзічаў наведаць у бліжэйшым часе місію БССР, каб абмеркаваць далейшыя кантакты й супрацоўніцтва.

**Я. З.**

## НА РАТГЕРСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

12-га кастрычніка адбыўся скарынаведны вечар у Ратгерскім Унівэрсытэце. Арганізавалі вечар Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды Аб'еднаньне Выпускнікоў Ратгерскага Ў-ту, а адказнай за правядзеньне вечару была сп-ня Галіна Русак. Праф. Адам Мальдзіс зрабіў даклад на тэму «Дасьледніцкая праца аб выдатным палачаніну і скарынаўскія ўгодкі ў БССР». Дакладчык, коратка разгледзеўшы працы аб Скарыну ад XVI да XX стагодзьдзя, падрабязна затрымаўся на праблемах вывучэньня спадчыны Скарыны ў

*(Працяг на 6-й б.)*

# 19-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

**Клïўленд, 1-3 верасьня 1990 г.**

Вялікімі намаганьнямі і арганізатараў, і самых удзельнікаў, цаною нэрвовага напружаньня і немалога пацэньня 19-я Сустрэча прайшла, бадай, лепш, як гэтага ўсе спадзяваліся. Хоць ня ўсё адбылося паводля праграмы — прыкладам, заплянаваны на сыботу папаўдні «круглы стол» ледзь уціснуўся ў рамкі сыботняга дня пад самы канец вечара і пачаўся, калі ўжо нельга было падаць аб ім да агульнага ведама — усёж адбылося максымум кантактаў, знаёмстваў, і адноўленых знаёмстваў (часамі пасьля папярэдняга выпытваньня збоку: «слухай, а хто гэта вунь той/тая?..»).



*Мамэнт узьняцьця сьцягоў і выкананьня нацыянальных гімнаў. Фота Ані Стагановіч.*

На сёлетнюю Сустрэчу, як на ніякую з ранейшых, паклаў свой адбітак новы гістарычны час: упяршыню далучылася да эмігрантаў афіцыйная й напоўафіцыйная Беларусь у асобах дэпутата Вярхоўнага Савету БССР Генадзя Грушавога, шэфа сталай місіі БССР пры ААН Генадзя Бураўкіна, заступніка старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту Юрыя Хадыкі, заступніка старшыні таварыства «Радзіма» Ўладзімера Навіцкага ды іншых гасьцей і наведнікаў зь Беларусі, Віленшчыны, Беласточчыны, Беларусаў Ленінграду, прадстаўнікоў установаў, арганізацыяў, прадпрыёмстваў у БССР. Асобаў пад 60 было зь Беларусі, каля 15 зь Беласточчыны, двое зь Вільні, адна зь Ленінграду. Былі Беларусы зь Нямеччыны, Ангельшчыны, Францыі. Усіх зьехалася чалавек пад 700.

Праграма Сустрэчы пачалася цырымоніяй узьняцьця перад новым будынкам культурнага цэнтру «Полацак» амэрыканскага й беларускага сьцягоў ды перадаваньнем «Полацку» падарункаў у форме кніжак, абразоў, лялек у нацыянальным адзеньні ды іншых сувэніраў. Падарункі передалі ді з кароткімі прамовамі выступілі: Уладзімер Навіцкі, праф. Юры Хадыка, Генадзь Бураўкін, Антон Міранові́ч, Тамара Сушко, Анатоль Белы.



*Частка залі ў часе канцэрту. Фота Я.Арцюха.*

Пасьля гэтага ў залі новазбудаванага грамадзка-культурнага цэнтру адбылася багаслужба й акт высьвячэньня. Служыў Яго Высокадастойнасьць Архіепіскап БАПЦ Мікалай у суслужэньні пяцёх сьвятароў і двух іераманахаў. Бальшыня багаслужбы вялася па-беларуску, хорам кіраваў Кастусь Калоша.

У двух канцэртах, сыботнім і нядзельным, узялі ўдзел ансамбль «Жывіца» з Бацькаўшчыны (песьні, музыка, жарты), гурток Гайнаўскага ліцэю (песьні, дэклямацыі), клïўлендзкі хор «Васілёк» (пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч), барды Данчык Андрусышын, Сяржук Сокалаў-Воюш, Лявон Барткевіч. У мастацкай праграме выступілі таксама паэт Сяргей Панізьнік, (дэклямацыя) Валя Якімовіч (сьпеў), Галіна Прыма (дэклямацыя),

Адгулялі дзьве вясёлыя вечарынкі пад добрую аркестру Алекса Мартыновіча.

Адным з найбольш узрушальных мамэнтаў было супольнае выкананьне артыстамі й публікай (усіх асобаў 600) песьні «Люблю наш край», ды, на заканчэньне нядзельнага канцэрту — песьні «Пагоня» і гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

У нядзелю пасьля багаслужбы адбыўся банкет, праграму якога вялі сп-ня Ліда Ханенка і др. Янка Запруднік. У ліку гасьцей быў сп. Джордж Вайновіч, кандыдат на губэрнатара штату Агаё ад Рэспубліканскае партыі, былы мэр гор. Клïўленду. На банкеце прамаўляла кангрэсмэнка Мэры Роўз Оўкэр (ейную прамову гл. у папярэднім нумары «Беларуса»), мэр Стронгсвілу Ўолтэр Эрнфэлт (на тэрыторыі гэтага клïўлендзкага прыгараду знаходзіцца «Полацак»), сп. сп. Мікола Ганько, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады; др. Юры Хадыка, заступнік старшыні Сойму БНФ, Беларускага Народнага Фронту; Валянтын Стэх, старшыня Беларускага Культурнага Таварыства ў Вільні; адвакат Кевін Бэрман; Алег Латышонак ад Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня (Беласточчына), др. Язэп Сажыч, Старшыня Рады БНР; Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі; Анатоль Белы (менскі клюб «Спадчына»); Міхась Белямук; Вера Рамук (Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага); Геральд Асьвяцінскі (віцебскі тэатр імя Якуба Коласа).

Банкет закончыўся прыняцьцём рэзалюцыі (гл. у пяпярэднім нумары «Беларуса»).

У часе банкету былі адзначаныя і ўшанаваныя наступныя прысутныя асобы:

Архіепіскап Мікалай, першагіерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы;

а. Мітрафорны пратаярэй Аляксандар Радэнковіч;

а. Пратаярэй Міхась Страпко;

а. Пратаярэй Канстантын Бандарук;

а. іераманах Якуб;

а. Пратаярэй Васіль Андраюк;

а. Іван Пурыч

Антон Шукелайць, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзніночаньня;

Юрка Азарка, старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі;

др. Язэп Сажыч, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі;

Янка Азарка, старшыня сэктару Рады БНР у Нью-Джэрзы;

Генадзь Бураўкін, шэф місіі БССР пры ААН, і сп-ня Юлія Бураўкіна;

др. Юры Хадыка, заступнік старшыні Сойму БНФ «Адраджэньне»;

Генадзь Грушавы, дэпут Вярхоўнага Савету БССР, старшыня камітэту «Дзеці Чарнобыля» БНФ;

Аляксей Палунін, дырэктар Беларускага філіялу навукова-тэхнічнага прадпрыёмства «Дэльта» АН СССР;

Натальля Асеньнева, паэтка;

Сяржук Сокалаў-Воюш, паэт;

Сяргей Панізьнік, паэт;

Янка Юхнавец, паэт;

Анатоль Бярозка, паэт;

Маргарыта Шабуня-Пярова, прадстаўніца Беларускага Таварыства ў Ленінградзе;

Галіна Прыма, дырэктар першага ў Беларусі беларускамоўнага дзіцячага садка ў Менску, дырэктар самадзейнага тэатру «Золак»;

Валянтына Пархоменка і Алесь Казак, кіраўнікі ансамблю «Жывіца»;

Анатоль Белы, старшыня клюбу «Спадчына», і дачка Сьвятлана, журналістка;

Галіна Левашкевіч, дырэктар дзіцячай музычнай школы ў Менску;

Марыя Міцкевіч, прадстаўніца БНФ і дэпутат раённай рады гор. Менску (унучка Якуба Коласа);

Уладзімер Навіцкі, намесьнік старшыні Беларускага таварыства «Радзіма»;

Анатоль Абрамчык, старшы рэфэрэнт таварыства «Радзіма»;

Геральд Асьвяцінскі, дырэктар тэатру імя Якуба Коласа ў Віцебску, старшыня Віцебскай абласной рады краязнаўцаў;

сп. Сярмашка, старшыня Беларускага адзьдзелу камітэту «Дзеці, будаўнікі 21-га стагодзьдзя»;

Сяргей Булацкі, карэспандэнт Дзяржтэлерадыё БССР;

Ада Чачуга, журналістка, прадстаўніца рэдакцыі газэты «Ніва»;



*Удзельнікі мастацкай праграмы.*

суродзічы з Бацькаўшчыны, сваякі амэрыканскіх Беларусаў: Станіслава Шот і сын Віктар Шот зь Ліды, Мікалай Міцкевіч і Галіна Міцкевіч зь Менску, др. мэд. Марыя Мельнік са Случчыны;

Алінка Мясьнікова, студэнтка БДУ;

Валя Якімовіч, настаўніца зь Менску, і сын Руслан;

Аляксандар Іванюк, дырэктар Гайнаўскага ліцэю зь беларускай мовай навучаньня, сябра камітэту пабудовы Беларускага музэю ў Гайнаўцы;

Мікалай Бушко, дырэктар Гайнаўскага дому культуры;

Антон Міранові́ч, прадстаўнік Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня на Беласточчыне;

Пётр Скепка, кіраўнік ансамблю «Дубіны», сябра галоўнай рады БАД;

Алег Латышонак, сябры галоўнай рады БАД;

Валянтын Сельвесюк, Бася Кучынская і Міраслаў Перкарскі, актывісты Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў у Польшчы;

Вялянтын Стэх, старшыня Беларускага таварыства «Сябрына» ў Вільні;

Міраслава Русак, сакратар «Сябрына» ў Вільні;

Івонка Сурвіла, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе;

*(Працяг на 6-й б.)*

# 19-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

Янка Міхалюк, Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, і сп-ня Лёля Міхалюк;

Міхась Баяроўскі, прадстаўнік ЗБВБ з гор. Бірмінгаму;

Міхась Наўмовіч, старшыня «Хаўрусу» ў Францыі, і дачка Ганна;

Юрка Сяныкоўскі, кансультант Беларускай сэкцыі радыё «Свабода», з сынам Фрэдэрыкам;

Вячаслаў Станкевіч, кіраўнік Беларускай сэкцыі радыё «Свабода»;

Галіна Руднік, рэжысэр радыё «Свабода»;

др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва;

Мікола Прускі, рэдактар і выдавец часапісу «Сьвет»;

Алесь Міцкевіч, выдавец «Вестак і паведамленьняў» ньюёркскага адзьдзелу БАЗА;

Кастусь Мерляк, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня;

Язэп Арцюх, рэдактар Byelorussian Review;

Юрка Станкевіч, выдавец Byelorussian Review;

Ірэна Цупрык, прадстаўніца Беларускага Культурнага Таварыства ў Саўт-Рывэры;

Франьцішак Бартуль, старшыня Фундацыі імя П. Крэчэўскага;

Юрка Кіпель, новы старшыня (перавыбары адбыліся ў часе Сустрэчы) Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі;

Сяргей Гутырчык, старшыня Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў;

Васіль Мельяновіч, старшыня Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў у ЗША;

Жорж Навумчык, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру ў Саўт-Рывэры, Н.-Дж.;

Галіна Русак і Надзя Кудасава, сяброўкі ўправы Беларуска-Амэрыканскага Таварыства ў Нью-Джэрзы;

Міхась Махнач, старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага;

Вера Рамук, сакратар БКК у Чыкага;

Міхась Каленік, старшыня Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага;

Аляксандар Сільвановіч, старшыня Фонду Адраджэньня Беларусі;

Васіль Русак, сябра ўправы Фонду Дапамогі ахвярам Чарнобыля на Беларусі.

Вера Бартуль, старшыня Беларуска-Амэрыканскай Дапамогі;

праф. Мікалай Мітрафанаў, спэцыяліст касьмічнай тэхналёгіі, зьвязаны з распрацоўкай праекту патушэньня атамнага рэактара ў Чарнобылі, з жонкаю.

Вацлава Вярбоўская, рэжысэрка, з дачкою Натальляй, рэжысэркай.

Джордж Коўан, бізнэсмэн;

Міхась Тулейка і Міхась Белямук, зь ліку арганізатараў першай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Традыцыйна на Сустрэчах Беларусаў Паўночнай Амэрыкі галоўная ўправа БАЗА і рэдакцыя «Беларуса» зьбіралі ахвяраваньні на фонд газэты «Беларус». Гэтым разам, у сувязі з чарнобыльскай бядой, быў праведзены збор грошай на дапамогу ахвярам Чарнобыля (збор выдатна правяла сп-ня Івонка Сурвіла). Грошы былі перададзеныя сп. Генадзю Грушавому — тры тысячы даляраў. Васемсот даляраў на тую-ж мэту сабрала сп-ня Вера Рамук продажам нагрудных значкоў, якія яна зрабіла для гэтай мэты.

Мастак Міхась Наўмовіч прывёз з Парыжу свае тры абразы і паставіў іх на аўкцыён, заявіўшы, што прыбытак з продажу пойдзе таксама на дапамогу чарнобыльцам.

У часе Сустрэчы працавалі выстаўкі мастацтва і стэнды з сувэнірамі. Багатую выстаўку абразоў у асобным пакоі разьмясьціў сп. Анатоль Белы зь Менску. Можна было набыць таксама кніжныя выданьні БІНіМу.

Арганізатары Сустрэчы зрабілі шмат, каб забясьпечыць гасьцей ежай, пітвом, начлегам. Бязумоўна, былі й некаторыя зрывы, недагляды, спазьненьні. Асечку дала ахаладжальная сыстэма новага будынку, давялося папацець. Але нараканьняў ня было. Наадварот, усе былі ўдзячныя клілэндцам, што яны гэтак гасьцінна сустрэлі гасьцей ды гэтак самаахвярна працавалі, каб кожнага задавольніць. Усякія недахопы й зацяжкі перакрывала пачуцьцё радасьці з самога факту сустрэчы суродзічаў з усіх канцоў сьвету ды гонар за клілэндзкую грамаду, акая сваёй працавітасьцяй дамаглася такое ўдачы, такога трывалага ўкладу ў беларуска-амэрыканскі культурны й эканамічны набытак.

Звычайна ў канцы кожнае Сустрэчы прымаецца прапанова аб месцы наступнага спатканьня. Сёлета гэткае пастановы ня было, але былі выказаныя прыватна дзьве думкі: адна — правесьці 20-ю Сустрэчу там, дзе адбылася першая, г. зн. на Ніягары; другая думка — сустрэцца на Бацькаўшчыне ў Менску (бязумоўна, калі для гэтага будуць адпаведныя палітычныя ўмовы).

**Я. З.**

**Паўлінка Сурвіла**

## МУЗЫКА І ДАЗНАНЬНЕ ГРАМАДЫ

Сёлетняя сустрэча Беларусаў у Клілендзе сымбалізуе сабой нашы грамадзкія дасягненьні і характарызуе нашу матывацыю. Стаўшыся нагодаю прадэманстраваць грамадзкую салідарнасьць і адсьвяткаваць багацьце свае культуры, падзея гэтая дала ейным удзельнікам магчымасьць абмеркаваць нашы агульныя праблемы. Найважнейшая зь іх — гэта палітычнае палажэньне ў Беларусі і спусташальная спадчына Чарнобыля.

Нам запраўды пашанцавала на новыя свабоды й магчымасьці пазытыўнай дзейнасьці, якія адкрываюцца перад намі. Шырыню гэтых магчымасьцяў прадэманстравалі найлепш, бадай, абліччы ў залі Сустрэчы: студэнты з Гайнаўкі, госьці зь Менску, Беларусы ўсіх пакаленьняў і з усяго сьвету. Ужо сама гэтая шырыня прадстаўніцтва — гэта сваечасовы й надзейны хрост будучае глябальнае беларускае грамады.

Маючы свае асабістыя ўражаньні ад зьезду, усе мы, як група, былі ўпрывілеяваныя падзяліцца адным канкрэтным аспэктам дазнаньня. Гэтае дазнаньне не патрабавала з нашага боку найменшага намаганьня і, як гэта ні іранічна, станецца, праўдападобна, асновай нашых згадак пра Сустрэчу. Як удзельніца й назіральнік, я была ўражаная эфэктам музычных выступленьняў. Яны мелі ў сабе сілу, здольную спантанічна аб'ядноўваць цэлую залю народу і маглі эфэктыўна прамаўляць да людзей рознага веку й розных густаў. Існасьць гэтае сілы ў тым, што яна прадстаўляе сабой тыя вартасьці, якія мы падзяляем як сябры аднае беларускае грамады: спалучэньне культурнага дазнаньня і эмацыянальнага адчуваньня, унятых у паэзіі, музыцы й танцы. У кожным нумары праграмы была камунікацыйная сіла: дэклямацыі й песьні з Гайнаўкі, сьлёзныя й жартаўлівыя песьні «Жывіцы», сьпеў клілендзкага хору «Васілёк», танцы ньюёркскага «Васілька» і магутныя баляды Данчыка, Лявона Барткевіча і Сяржука Сокалава-Воюша. Гэтыя выступленьні выклікалі сьлёзы, сьмех і гучны энтузіязм. Мяркуючы паводля рэакцыі напоўненай залі і энэргічных воплескаў, на нас робіць уплыў штосьці большае, як толькі добрае выкананьне. Мы ўсе — частка тых песьняў, тае паэзіі, тых танцаў, бо мы зьвязаныя зь імі пачуцьцёвай повязяй, якое іншыя ня маюць. Для нас гэтыя мастацкія паказы падкрасьляюць штосьці няўлоўнае, нешта, што цяжка якасна вызначыць у ўсякай культуры. Гэта нешта, што мы носім з сабою і што мы ўпрывілеяваныя адчуваць. Радасным спосабам тыя паказы становяцца люстэркам нашае беларускае тоеснасьці: яны прыгадваюць нам нашу мінуўшчыну і ўмацоўваюць нашу будучыню. За гэта мы павінны падзякаваць тым выканальнікам, якія ў Клілендзе гэтак удала прыпаднесьлі нам нашае лэстэрка.

## *ЗАГЛЯНУЛА СОНЦА І Ў НАША ВАКОНЦА...*



*Заключная сцэна канцэрту «Жывіцы» ў Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры. Фота Мікалая Дуткі.*

У сыботу 15-га верасьня завітала да нас у Саўт-Рывэр «Жывіца», беларускі дзяржаўны фальклёрны ансамбль зь Менску.

Тут, у Саўт-Рывэры й ваколіцах, жыве шмат Беларусаў, і ўсе яны сьпяшылі ў Беларуска-Амэрыканскі Цэнтар, дзе меў адбыцца канцэрт «Жывіцы». Заля была перапоўненая, панавала атмасфэра напружанага чаканьня.

І вось са сцэны паплылі ў залю дарагія сэрцу гукі песьняў і музыкі. Здавалася, што раптам апынуліся мы сярод нашых сенажацяў, бярозак і поўных пралесак лугоў. Цяжка ўспомніць усіх удзельнікаў канцэрту. Выканаьне ўсіх іх было на высокім мастацкім узроўні. Праграма была вельмі багатая. Былі тут і дудкі, і дуда, баяны, і скрыпкі, цымбалы, і нават бубен, на якім заліхвацка іграла Валя. Асабліва ны Пархоменка. На тварах многіх слухачоў можна было бачыць сьлёзы. Калі я слухаў ейны сьпеў, прыпомнілася наша залатая восень. Аднойчы ішоў я праз лес пад вечар і раптам пачуў здалёку песьню. Сьпявала недзе спозьненая жняя, а рэха несла гэтую песьню дзёка-далёка.

Алесь Казак разьвесяліў нас сваймі жартоўнымі песьнямі і дуэтамі з Валянцінай Пархоменка.

Ігра цымбалістак Ані й Вольгі гарманічна далучалася да выконваных песьняў і танцаў. Захапіў нас дуэт Ані (цымбалы) і Хведара (баян). Іх ігра была такой віртуознай, што выклікала сапраўдную буру воплескаў.

На заканчэньне канцэрту артысты і ўся заля, стоячы, прасьпявалі зь вялікім уздымам «Люблю наш край».

Былі хвіліны, што мне да болю рабілася сумна, калі думаў я аб тым, як гэта доўга давялося нам чакаць на гэты канцэрт. Толькі нядаўна ўспомнілі аб нас на Бацькаўшчыне і перасталі лічыць нас здраднікамі.

Жадаем «Жывіцы» і ў далейшым плённага працягваньня сваёй дзейнасьці і часьцейшага наведваньня нас у будучыні.

*Саўт-Рывэр, верасень 1990 г.*

**Пётра Нядзьвецкі**

## СКАРЫНАЎСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

БССР ад канца 20-х гадоў да сярэдзіны гадоў 50-х. Аднак, сказаў праф. Мальдзіс, мінулае ззаду і трэба глядзець у будучыню, а ў будучыні прадбачыцца адчыненьне ў Менску спэцыяльнага цэнтру імя Ф. Скарыны (дарэчы, штат для гэтае ўстановы ўжо зацьверджаны), які будзе займацца як скарыназнаўствам, гэтак і іншымі аспэктамі беларускае культуры, якія пакуль што не ўваходзяць у поле дзейнасьці дасьледчых установаў БССР.

Да ўрачыстасьці была падрыхтаваная спэцыяльная выстаўка скарынаўскае літаратуры.

**В. З.**

## «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАРУСІ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

на гэтак шмат каштоўных рэчаў, але не выглядае, што гэта выкарыстоўваецца, — мала наведнікаў. У тым часе як мы там былі, была й тэлевізія, але было ўражаньне, што гэта нязвычайная зьява для іх.

Цяпер я хачу расказаць пра тое, пра што іншыя з нашай групы маглі не расказаць. Некаторыя з нас мелі нагоду пабываць на кангрэсе БНФ. Якраз у той час як мы былі ў Менску, сабраўся там вялікі двухдзённы кангрэс сяброў Беларускага Народнага Фронту для абмеркаваньня незалежнасьці Беларусі. Людзі розных прафэсіяў гаварылі аб розных праблемах, гаспадарчых і палітычных. Адзін праўнік (прозьвішча, на жаль, ня памятаю) гаварыў аб праўным становішчы Беларусі: як Беларусь ўвайшла ў Савецкі Саюз і як зь яго выйсьці, якія пасьледкі і карысьці ад гэтага. Ягоныя высновы гучэлі вельмі пазытыўна. Шмат гаварылася пра экалёгію, пра Чарнобыль. Людзі гаварылі на розных узроўнях, з розным веданьнем беларускай мовы, але ўсе былі вельмі энтузіястычныя. Адзін з прамоўцаў цытаваў беларускі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

*Правяла гутаркі* **Зора Кіпель**

# БУДЗЕМ ШУКАЦЬ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

ларусы (дужа няпрыемна чуць з Вашых вуснаў гэтую вялікадзяржаўную і абразьлівую мянушку Украінцаў — С.-В.) усьведамлялі сябе Рускімі», пішаце Вы, нібыта забыўшыся на тое, што Ваш народ яны называлі Расейцамі і ні пра якое Ўзьяднаньне з Расіяй ня думалі. Ах, беларускі селянін дапамог Пятру I ў бітве пры Лясной. Як захапляліся гэтым фактам гісторыкі-вульгарызатары эпохі сацыялізму! Як вучылі нас бачыць у гэтым тое самае імкненьне да Ўзьяднаньня. Але тыя-ж гісторыкі сарамліва маўчалі пра другога беларускага селяніна, які ў 1812 годзе паказаў адступаўшаму Напалеону пераправу праз Бярэзіну, яны старанна выкрэсьлівалі зь гісторыі факт наяўнасьці ў Напалеона беларускіх палкоў, хвалілі тое, што славуты сын рускага народу Іван Сусанін завёў у непраходныя маскоўскія лясы і балоты ня толькі Палякоў, але (і гэта перад усім) і Беларусаў, якія былі наймагутнейшай войсковай сілай у Рэчы Паспалітай. Дарэчы, у гэтай дзяржаве Беларусь (Літва) жыла па сваіх законах, напісаных канцлерам Львом Сапегам (паходзіў з полацкіх баяраў) на беларускай мове і званых «Статутам Вялікага Княства Літоўскага».

Сказаўшы слова да Ўкраінцаў, вы кідаеце нам абразьлівае: «Усё сказанае цалкам датычыць і Беларусі...». Нібыта і ня мелі мы *сваёй* гісторыі, *свайго* лёсу. Ды а калі і мелі — гэты «рахманы» народ прамоўчыць, бо калі Вы так зухавата расправіліся зь «безглядными» ўкраінскімі сэпаратыстамі, то куды там нам — цялятам, бадацца з дубам. Ці ня лепш дапамагаць «обустраивать» Расію ды маўчаць. Базрані Божа, каб старэйшы брат не разгляваўся ды не пагразіў пальцам.А старэйшы брат добра ведае, як за апошнія 70 гадоў мы так звыклі баяцца гэтага пальца, што і ня думалі папрасіць у каго-небудзь дапамогі ад такога братэрства.

Я разумею, што за 70 год, на працягу якіх мы «квітнелі» ў СССР, віна кладзецца не на рускі народ, а на сыстэму, але сыстэма гэтая сталася занесеная да нас ра рускіх штыхах. Вядома, разанскаму мужыку было (ды і цяпер) няістотна: будуць на Беларусі беларускія школы ці нейкія іншыя. Але ў тым і бяда, што — няістотна... А думаць пра гэта ён ня будзе ніколі! Думаць павінен полацкі мужык, які вырас у атмасфэры бязьмежнага пакланеньня Расіі, і ў Вашым Расійскім Саюзе полацкаму мужыку не пераадолець гэтай рабскай псыхалёгіі. Якраз таму, не ўсьвядоміўшы сябе Беларусам, ён і не прагаласуе сёньня за выхад з Вашага Саюзу, а сам Саюз ня будзе саюзам роўных. Ды і сама ідэя галасаваньня пасьля Вашага сваечасовага: «... а большасьць — можа патрапіць і ў падман», — здаецца бязглуздай. Вось чаму я кажу пра поўную самастойнасьць і незалежнасьць Беларусі, а там (паўтараюся) — гісторыя пакажа.

Заявіўшы на самым пачатку пра непадзельнасьць трох славянскіх народаў, Вы далей бышцам забываецеся на іх. І вось ужо няма месца нацыянальным адносінам ні ў пытаньнях зямлі і гаспадаркі, ні ў пытаньнях сям'і і (што самае страшнае) школы.

Сёньня Савецкі Саюз — адна з самых небясьпечных дзяржаваў сьвету. Галодны і голы, але да зубоў узброены монстар — непрадказальны заўжды, тым больш тады, калі гэты монстар яшчэ і высоканедаразьвіты, а калі адкінуць вайсковую моц, то і такі, які разьвіваецца назад. Так, «бэтонная пабудова» камунізму, а разам зь ёю і «саюз непарушных» развальваюцца, і, я мяркую, ня варта імкнуцца зьберагчы нават драбніцу гэтага саюзу, тым больш, што ў ім гіне і мая Беларусь. Мой народ канае ад радыяцыі, задыхаецца ад прамысловых выкідаў, зьнікае (ці пакутліва рыхтуецца да ўваскрашэньня?) мая мова; культура і нацыянальны гонар — занядбаныя. Але мой народ змагаецца і ў гэтай барацьбе ён непераможны, пакуль б'ецца сэрца майго сына. Пакуль, гаворачы пра свой боль, мы гаворым і разумеем боль Украіны, Літвы, Грузіі..., пакуль памятаем пра вобласьці Расіі, якія гэтак сама сталіся ахвярамі Чарнобыля і на якія, даруйце, «плюнулі», на якія «забыліся» і Масква і, як гэта ні горка, Вы ў сваіх «соображениях» пра тое, як Вам «обустроить» Расію.

«Ну а самі мы — якія?» Для мяне гэта Вашае пытаньне не прагучэла і з другога боку, пасьля чаго я задумаўся: а ці маю я права пісаць Вам так, як пішу? Думаю — маю... Вас запрашалі вярнуцца ў Расію. Вы, стаўшы ў позу гуманіста, адмовіліся. Так, Амэрыка — цуд! Тут Вам можна бязьбедна жыць, мяркуючы пра правы чалавека на спляжанай Радзіме, патрабуючы дараваньня ўсім незаконна выгнаным і чакаючы пакуль там не «обустроится» ўсё, згодна з Вашымі меркаваньнямі. Куды як складана вярнуцца *дадому* і павесьці за сабой тых, хто верыць Вам. Менавіта таму я, знаёмы не па чутках і з органамі КДБ, і зь «дзедаўшчынай» у войску, і з цэнзурай, і зь несправядлівасьцю (як чалавек, што ніводнага дня ў жыцьці ня быў камсамольцам па палітычных і чалавечых перакананьнях); менавіта таму я — быў сьлесар, настаўнік і работнік музэю (два апошнія месяцы працы я мусіў пакінуць «па ўласным жаданьні»), быў працаўнік тэатру, маючы магчымасьць застацца тут, у Амэрыцы, еду на Радзіму, ні хвіліны не сумняваючыся ў тым, што месца пісьменьніка там, дзе яго чакаюць і дзе ў яго вераць.

Мільёны людзей, гатовыя пайсьці за Вамі ў Расіі, маглі-б зрабіць ня мала. Там, на Радзіме, Вы можа быць хутэй зразумелі-б, што «обустраивать» Расію трэба ня коштам іншых народаў, як гэта было на працягу траха ня ўсёй ейнай гісторыі. Што «обустройство» Расіі магчымае там, дзе ёсьць жаданьне Расейца хаця-б адзін раз у жыцьці саскочыць зь печы, на якой Іванушка-дурачок усё жыцьцё ехаў у камуністычную краіну росквіту й шчасьця, і зрабіць што-небудзь сваімі сіламі, ня ўцягваючы ў «обустройство» свайго *дабрабыту* (ня ведаю гэтага слова па-руску, але Вы, як Славянін, зразумееце) іншыя народы.

Але Вы ня былі-б тым А. І. Салжаніцынам, якога я паважаю, калі-б у канцы сваіх «соображений» не паставілі выдатнае: «Давайце шукаць».

Так, давайце *шукаць*. Давайце шукаць разам, але маючы за падвaліны гэтага шуканьня прынцып гістарычнае праўды, справядлівасьці і, што самае найважнейшае, поўнай самастойнасьці і незалежнасьці нашых народаў. То-ж бо ў агульным чопе — Расійскім Саюзе — нехта ізноў можа стацца «кротким», нехта — нясьмелым і нерашучым, а нехта — нахабным і самаўпэўненым, нехта можа ня зьнішчыць у сабе раба, а нехта — рабаўладальніка. Задумаемся над гэтым і будзем ШУКАЦЬ.

З павагай
**Сяржук Сокалаў-Воюш,**
**сябра Сойму Беларускага Народнага Фронту,**
**«Адраджэньне», паэт, бард.**

*24-27 верасьня 1990 г. Нью-Ёрк.*

***Заўвага:* Вышэй зьмешчаны адкрыты ліст С. Сокалава-Воюша А. Салжаніцыну быў апублікаваны ў ньюёркскай газэце «Новое Русское Слово» 11.X.1990.**

# ЗАПАВЕТЫ СКАРЫНЫ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

садзейнічаў уваходжаньню роднай краіны ў супольнасьць эўрапейскіх дзяржаваў, іх мірнае сужыцьцё. Гаворачы сёньняшняй моваай, ён першы рашуча і шырока адчыніў перад сваімі суайчыньнікамі дзьверы ў той вялікі сьвет, які мы называем эўрапейскім домам, дзьверы ў паўнацэннае гістарычнае быцьцё. І не ягоная віна, што потым гэтыя дзьверы ня раз глуха зачыняліся.

Дарэчы будзе прыгадаць, што ў часы Скарыны Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася ў канфлікце з суседзямі, вяло зацяжныя войны — і справядлівыя, і ня вельмі. У такой сытуацыі лёгка было паддацца агульнаму ваяўнічаму настрою і супрацьпастаўляць адну дзяржаву другой (скажам, Княства — Масковіі або Польшчы) і тым самым падліць алею ў вогнішча. Аднак у прадмовах да выданьняў Скарыны такой варожасьці няма і блізка. Наадварот, беларускі гуманіст дае чытачам, у тым ліку і нам, ягоным нашчадкам, зусім іншы ўзор для пераймання. І ўзор гэты — мудры Саламон, пры якім «был мир и покой по вся времена царства его». Ідэал Скарыны — магутны, сувэрэнны, абсалютны манарх, які, аднак, няўхільна кіруецца прававымі нормамі, у тым ліку і ў дачыненьні да іншых краін. Міралюбства, карысная для ўсіх членаў грамадзтва «згода» — характэрная, вызначальная рыса кожнага названага Скарынам законнага правіцеля; што-ж датычыцца беззаконьнікаў, тыранаў (Навуходаносар, Артаксеркс), то яны, усьлед за Бібліяй, надзелены ў Скарынавых прадмовах крайняй агрэсыўнасьцю. Гэта — заваёўнікі, разбуральнікі.

Францыішак Скарына, аднак, не асуджаў войны ўвогуле. Як і правіцеляў («О царех добрых и о злых»), ён падзяляў іх на «законныя» і «незаконныя», справядлівыя і несправядлівыя. Першыя зь іх вядуцца дзеля сьвятой справы — абароны айчыны ад іншаземных захопнікаў, вызваленьня зь няволі. І таму на баку воінаў-праведнікаў (Гедэон, Самсон) звычайна знаходзяцца прырода, нябесныя сілы. Зусім іначай беларускі гуманіст адносіцца да войнаў несправядлівых, захопніцкіх — на яго думку, яны супярэчаць натуральнаму і пісанаму праву, маральна-этычным нормам. Так, у прадмове да «Кніжкі плачу Еремина» дадзена рэзкая адмоўная ацэнка дзеяньняў вавілонскага цара Навуходаносара, які, захапіўшы Ерусалім, па-варварску зрабаваў сьвятыню Саламона, захапіў у палон «людей словутных», што прывяло да «опустения и скажения града». Плач Ераміі на руінах Ерусаліму гучаў у часы Скарыны (і гучыць сёньня) як страсны пратэст супраць разбуральных вынікаў вайны, што не пакідае пасьля сябе «каменя на камени». Скарына нібы прадчуваў і прадбачыў, да якога апакаліпсіса могуць прывесьці войны ў будучым, калі злое ў чалавеку возьме верх над добрым. І таму грозным напамінам, перасьцярогай гучаць сёньня словы нашага вялікага папярэдніка «о земли же мертвых» і «о сконании миру».

Міралюбствам, павучальнай для нас цярпімасьцю вызначаліся таксама канфэсійныя погляды Францыішка Скарыны. Быўшы каталікам, ён, тым ня менш, адрасаваў свае выданьні праваслаўнаму «люду посполитому». У прадмовах знакамітага Палачаніна няма адмаўленьня або апалягетыкі ні аднаго хрысьціянскага веравызнаньня. І нават да паганаў Скарына заклікаў адносіцца з той-жа цярпімасьцю — пераконваць іх, наварочваць іх на шлях ня зброяй, а словам. Зыходзячы зь інтарэсаў усеагульнага «блага», зь інтарэсаў свайго народу, разьдзеленага як тады, так і цяпер у рэлігійных адносінах, ён імкнуўся, абапіраючыся на ідэі раньняга хрысьціянства, узьняцца і над праваслаўем, і над каталіцтвам, над іхнімі разыходжаньнямі, што вялі да варожасьці, і тым самым зьявіўся прадвесьнікам сёньняшняга экумэнізму. Такая шырыя мысьленьня, такая «надканфэсіянальнасьць» выглядалі выключэньнем у Эўропе XVI ст., дзе часта ўспыхвалі рэлігійныя войны і дзе спальвалі іншаверцаў. Талерантнасьць Скарыны рэзка кантрастуе і з больш позьняй веранецярпімасьцю — і ў часы контррэфармацыі, і ў XIX стагодзьдзі, і ў нашы дні, калі ўсё яшчэ праяўляецца замала добрай волі ў адносінах паміж канфэсіямі. Актуальным застаецца і прыклад нашага першадрукара, які ўсё жыцьцё імкнуўся да адной мэты: даць свайму народу слова Божае, слова, што кансалідуе, на блізкай яму і зразумелай мове. Гэты Скарынаў запавет зьдзяйсьняецца марудліва як праваслаўнай, так і, асабліва, каталіцкай царквой.

Ідэі «згоды» паміж людзьмі, народамі, дзяржавамі і веравызнаньнямі, якія так настойліва і пасьлядоўна адстойваў і пашыраў Скарына, ня згубілі свайго значэньня, свaёй прываблівай сілы і ў наш, аддалены на пяць стагодзьдзяў час. Наадварот, сёньня, калі перад чалавецтвам з усёй вастрынёй узьнікла задача выратаваньня «сьвятога дару жыцьця» ад розных радыяцыйна-экалягічных катаклізмаў, калі ўзьнікла настойлівая патрэба абаперціся на агульначалавечую салідарнасьць і дабрачыннасьць, гэтыя ідэі набылі асаблівы сэнс і значэньне. Сёньня нам блізкія маральна-этычныя каштоўнасьці, заключаныя і ў перакладах, і ў прадмовах Скарыны, ягоная прага духоўнага абнаўленьня чалавека і грамадзтва. Каштоўнасьці гэтыя нятленныя, не падуладныя часу, таму што яны зарыентаваныя на інтарэсы не аднаго чалавека, не адной групы людзей, не аднаго саслоўя, а на інтарэсы ўсяго чалавецтва.

## УСЁ ЯШЧЭ «ГЕОРГІЙ» СКАРЫНА

Незважаючы на тое, што Францыішак Скарына ніколі сам сябе не называў «Георгіем» («Георгіем» Скарына названы толькі раз у адным дакумэньце, перапісчык якога памылкова прачытаў лацінскае слова egregius, што значыць выдатны, ведамы), гіерархі Беларускай (расейскай) Праваслаўнай Царквы ўпарта называюць Скарыну «Георгіем», як гэта было на сёлетніх скарынаўскіх сьвяткаваньнях у Менску й Полацку. Мітрапаліт Менскі і Гарадзенскі, патрыяршы Экзарх Філарэт таксама прышпіліў Скарыну неўласьцівае яму імя. У звароце за чытачоў «Народнай газеты» (№ 1) Філарэт гаворыць пра «Георгія-Францыска» Скарыну.

## «ВАСІЛЁК» І СУСТРЭЧА НА ВІДЭАІСТУЖЦЫ

Два дакумэнтальныя відэафільмы — «'Васілёк' на Беласточчыне (1989)» (60 хвілін з англамоўным расказам) і «Кліўлендзкія канцэрты (1990)» (5 гадзін, ужывую) — можна набыць, адпаведна, за 45 дал. і 40 дал. (у цану ўлучаны кошт перасылкі, тры тыдні чаканьня). Заказваючы, трэба назваць пажаданы фармат: VHS ці Beta.

Частка прыбытку пойдзе на фонд Чарнобыля і будаўніцтва Беларускага ліцэю ў Гайнаўцы.

Чэкі (у ам. д.) слаць на адрас:
P. Survilla
102 South Seventh St.
Ann Arbor, MI 48103

## СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ САЎКА

У панядзелак 10 верасьня г. г. ў бруксэльскім шпіталі Бругмана адыйшоў на вечны супакой наш сябра й прыяцель Міхась Саўка.

Нарадзіўся Міхась 19 ліпеня 1927 году ў вёсцы Загор'е на Наваградчыне. У часе нямецкае акупацыі браў актыўны ўдзел у моладзежным руху, належаў да Саюзу Беларускай Моладзі, у якім быў адным зь кіраўнікоў. Эвакуаваўшыся ў палавіне 1944 году ў Нямеччыну, прабыў там да 1947 году, а тады паехаў на працу ў Бэльгію, якая пасьля вайны патрабавала шмат працоўных рук. Працаваў спачатку вуглякопам. Па некаторым часе, маючы вялікія мастацкія здольнасьці, пачаў наведваць вячорныя курсы ў мастацкай Акадэміі. У міжчасе, у 1948 годзе, аргаізуецца пры Лювэнскім унівэрсытэце беларускае студэнцкае жыцьцё, паўстала Згуртаваньне Беларускіх Студэнтаў. Даведаўшыся аб гэтым, Міхась наладжвае лучнасьць і ў 1951 годзе залічваецца на факультэт археалегіі й гісторыі мастацтва Лювэнскага ў-ту. Навуку скончыў у 1955 г. і, з тытулам магістра, уладзіўся на працу ў Каралеўскім Інстытуце Мастацкае Спадчыны. Інтыстытут быў падпарадкаваны Міністэрству культуры, каб працаваць у ім, патрэбнае было бэльгійскае грамадзянства. Ня маючы яго, Міхась спачатку працуе як часовы рэстаўратар абразоў і статуяў, спэцыялізуецца ў рэстаўраваньні касьцельных фрэскаў.

У 1963 г., дастаўшы грамадзянства, залічваецца ў склад сталых супрацоўнікаў Інстытуту, у 1969 г., пасьля адпаведных экзаменаў, займае становішча адміністрацыйнага сакаратара, а ў 1982 г. — кіраўніка працаў (Chef des Travaux).

У галіне рэстаўрацыі, у якой ён працаваў аж да занядужаньня ў 1985 г., Міхась Саўка дасягнуў вялікіх удачаў, распрацаваў спэцыяльную тэхніку рэстаўраваньня, аб якой шмат публікаваў у прафэсійных часапісах. Прыйшло прызнаньне заслугаў: бэльгійскае Міністэрства Французскае Культуры на падставе прапановы спэцыяльнае камісіі, у склад якое ўваходзілі прафэсары розных бэльгійскіх унівэрсытэтаў, прызнала Міхасю тытул доктара навук і мастацтва. Гэткі тытул без публічнай абароны спэцыяльнае тэзы — вялікая рэдкасьць. Дзякуючы ягоным вялікім мастацкім здольнасьцям, ён быў пакліканы ў каралеўскі палац, дзе даваў каралеве практычныя лекцыі маляваньня.

На жаль, доктару Саўку не давялося папрацаваць да пэнсійнага веку, бо ў 1985 г. ў выніку часткавага паралічу страціў працаздольнасьць. Апошнія гады свайго жыцьця Міхась правёў часткава ў шпіталі, часткава ў доме для спаралізаваных.

Паніхіду па нябожчыку адслужыў а. Канавалаў у нядзелю 16 верасьня. На багаслужбу зьехаліся Беларусы Бэльгіі, было таксама трое суродзічаў зь Беларусі: два пляменьнікі др. Аляксея Арэшкі і жонка аднаго зь іх. Прыйшлі таксама знаёмыя Бэльгійцы, Міхасёвы знаёмыя.

Жонка пакойнага з дачкой Ірэнай запрасілі ўсіх на багаты пачастунак. Хоць у сумных абставінах, але ў вельмі цёплай сяброўскай атмасфэры адбылося гэтае наша спатканьне, падчас якога шмат успаміналі аб адыйшоўшым Міхасю. Апошняе ягонае жаданьне было, каб яго пахавалі ў Лёндане побач з сынам Маркам, які некалькі год таму трагічна памёр і там спачывае. Жаданьне гэтае было споўнена: др. Іна з дачкой перавезьлі цела нябожчыка 23 верасьня ў Лёндан. Было выканана і іншае ягонае пажаданьне: заміж кветак на магілу, грошы былі перададзеныя а. Надсону на дапамогу ахвярам Чарнобыля.

На заканчэньне гэтага кароткага ўспаміну, дарагі сябра й прыяцель Міхась, жадаю Табе супакою разам з Тваім дарагім сынам на далёкай лёнданскай зямельцы. Хай яна будзе пухам вам абодвум, а Беларусь, якую Ты так любіў і жадаў перад сьмерцю хоць раз яшчэ пабачыць, хай прыемна прадстаўляецца Табе ў Тваім вечным сьне.

**Твой сябра й прыяцель Янка Ж.**

## СЬВ. ПАМ. ВІКТАР ЛУКАШЭВІЧ



Нарадзіўся ў Беларусі на Палесьсі ў вёсцы Красная Воля 10 жніўня 1931 году. Пасьля вайны сям'я затрымалася ў Нямеччыне, дзе ён наведваў беларускія школы, а таксама пачаў прымаць удзел у беларускім руху, мастацкіх выступах, спартовых дружынах, галоўна ў футболе.

У 1951 годзе сям'я прыехала ў ЗША і затрымалася ў Клїўлендзе, Агаё. Тут пакойны крыху працаваў на фабрыцы, а тады быў узяты ў амэрыканскае войска, у 1952 годзе браў актыўны ўдзел у Карэйскай вайне. Вярнуўшыся з войска, паступіў на працу. У 1959 годзе ажаніўся з Оляй Літвінчук з Ракфорду, Іліной, нарадзілі трох сыноў: Віктара, Колю й Сьцяпана, якія ў мамэнт сьмерці бацькі яшчэ канчалі навуку ў каледжах. Нябожчык быў добрым бацькам і дбаў пра сям'ю.

Пакойны Віктар, як і ягоны бацька Іван, з самага пачатку і ўвесь час быў даволі актыўны ў жыцьці беларускае калёніі. Браў удзел у розных гуртках: танцавальным, драматычным. Быў адным зь лепшых ігракоў у футбольнай дружыне, што займала вышэйшае месца ў Клїўлендзе. Таксама належаў і актыўна працаваў у Арганізацыі Беларускае Моладзі, адзьдзеле БАЗА, Задзіночаньні Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Аднак гэтая актыўнасьць пачала зьмяншацца пасьля аўтамабільнага выпадку ў 1970-х гадох, пасьля якога ён ня змог поўнасьцю паправіцца. Памёр раптоўна дома 10 травеня 1990 г.

Беларуская калёнія вялікаю колькасьцю ўдзельнікаў ўшанавала яго ў дзень паховінаў у часе службаў у царкве Жыровіцкае Божае Маці і на беларускай сэкцыі гарадзкога магільніка, адсьпяваўшы жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў».

Адыход Віктара на вечны супачынак — гэта вялікая страта і жонцы з сынамі, і матцы Марыі, і беларускай грамадзе.

Хай-жа будзе яму лёгкай амэрыканская зямля і хай сьняцца краявіды беларускага Палесься, пра якія ён часамі расказваў, жывучы там маладым.

**К. П.**

## СЬВ.†ПАМ. МІКОЛА СУБАЧ

21 верасьня 1990 г. памёр у Мэльбурне ў Аўстраліі сьв. пам. Мікола Субач, пакінуўшы ў жалобе двух сыноў зь сем'ямі. Вельмі ўрачыстыя паховіны адбыліся 26 верасьня, была амаль поўная царква вернікаў. Багаслужбу й акт пахаваньня выканаў а. А. Кулакоўскі. Пражыўшы 85 гадоў, нябожчык спачыў на могільніку Фокнэр побач пакойнай жонкі.

Вечная памяць.

**М. Н.**

## ПРА АЙЦА А. НАДСОНА Ў БССР

«Дар беларускай эміграцыі» — пад гэткім загалоўкам газэта «Знамя юности» (2.VIII) паведаміла аб мэдыкамэнтах, якія прывёз зь Лёндану а. Аляксандар Надсон пры садзейнічаньні камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля». Газэта «Гомельская праўда» (6.VIII) зьмясьціла больш ілюстраваны рэпартаж пра падарожжа а. Надсона і сп. Міхася Баяроўскага ў Гомельскую вобласьць, дзе яны пабылі ў Гомельскай абласной і Хойніцкай раённай бальніцах ды перадалі на 30 тысячаў фунтаў стэрлінгаў аднаразовых шпрыцоў і абсталяваньня для пераліваньня крыві.

У рэдакцыі газэты «Літаратура і Мастацтва» адбылася сустрэча а. Надсона зь літаратарамі й гутарка аб чарнобыльскай трагедыі ды ролі беларускай эміграцыі ў дапамозе чарнобыльцам. (ЛіМ, 10.VIII).

## НА ЗЬЕЗЬДЗЕ АМЭРЫКАНСКІХ СЛАВІСТАЎ

На зьезьдзе Асацыяцыі Амэрыканскіх Славістаў, што адбыўся ў Вашынгтоне 18-21 кастрычніка, два даклады былі прысьвечаныя Беларусі: др. Янка Запруднік гаварыў пра сучаснае нацыянальнае адраджэньне й тэндэнцыі разьвіцьцяў БССР, а праф. Джэймс Флын — пра Вуніяцкую Царкву за часамі цара Аляксандра Першага і стан беларускае нацыянальнае сьведамасьці.

**НОВАЯ РАСЦЭНКА «БЕЛАРУСА».** У наступным годзе падпіска на «Беларуса» будзе 25 дал. на год, цана паасобнага нумару — 2,50 д. За калядна-навагодняе індывідуальнае прывітаньне — 20 дал., за прывітаньне ад арганізацыяў (у рамках) — 50 дал. Прывітаньні павінны быць прысланыя або паведамленыя тэлефанічна да 15 лістапада.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**АЎСТРАЛІЯ**

*Праз нашага прадстаўніка сп-ню Марыю Мароз:*

| | |
|---|---|
| М. Мароз | аўстр.д. 25 |
| А. Мароз малодшы | 20 |
| А. Бразоўскі | 50 |
| Ф. Дарэўскі | 100 |
| В. Л. (неразборліва) | 20 |
| А. Ніжнік | 30 |
| Е. Дамброўская | 30 |
| М. Раецкі малодшы | 20 |
| З. і М. Ёлаб | 20 |
| Чабатар | 20 |
| Бел. Аб. ў Зах. Аўстр. | 65 |
| Усяго | 400 |
| | ам.д. 332,60 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Г. Шайпака:*

| | |
|---|---|
| М. Скабей | аўстр.д. 80 |
| А. Кукель | 30 |
| З. Кадняк | 50 |
| Г. Шайпак | 50 |
| М. Нікан | 30 |
| Я. Яшчэнка | 30 |
| Я. Валеньцёнак | 30 |
| У. Сідлярэвіч | 40 |
| А. Груша | 60 |
| Сп-ня Яцкевіч | 40 |
| Т. Лашук | 50 |
| П. Гуз | 30 |
| Я. Стасевіч | 30 |
| Я. Барысевіч | 30 |
| А. Насяра | 30 |
| В. Каралюк | 30 |
| Н. Сікорская | 30 |
| М. Шэко | 30 |
| С. Каранеўскі | 30 |
| М. Швэд | 30 |
| Сп-ня Сэсэтка | 25 |
| Сп-тва Чэхавы | 10 |
| З продажу «Беларуса» | 30 |
| Усяго | 835 |
| | ам.д. 691,63 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

*Праз нашага прадстаўніка сп. Я. Сяўковіча:*

| | |
|---|---|
| Дж. Дынглі | анг.ф. 50 |
| Я. Д. | 30 |
| М. Швэдзюк | 25 |
| Ю. Хахолка | 25 |
| П. Асіповіч | 20 |
| А. Якубовіч | 20 |
| С. Дзейка | 20 |
| П. Чайкоўскі | 20 |
| В. Тур | 20 |
| А. Лашук | 15 |
| Я. Міхалюк | 15 |
| А. Ражанец | 15 |
| М. Сенька | 15 |
| Ю. Весялкоўскі | 15 |
| А. Зданковіч | 15 |
| М. Залога | 15 |
| Я. Сяўковіч | 15 |
| Усяго | 350 |

Я. Сяўковіч ахвяраваў дадаткова 70 анг. ф., выдаткаваныя ім за два гады на рассыланьне газэты.

**ЗША**

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Л. Трусэвіч | ам.д. 100 |
| Я. Сурвіла | 60 |
| А. Васанскі | 50 |
| І. Гайдзель | 50 |
| Г. Салавей | 50 |
| А. Моніч | 50 |
| В. Навіцкі | 40 |
| М. Грэбень | 40 |
| С. Гурын | 30 |
| В. Ярашэвіч | 20 |
| А. Маркевіч | 20 |
| С. Кірылік | 20 |
| А. Шостак | 20 |
| М. Шуст | 20 |
| В. Ковэтт | 20 |
| Усяго | 590 |

*Папраўкі (да папярэдняга № Б-са):*

Сп-ня О. Арэхва ахвяравала 30 дал. *заміж кветак на магілу с.п. Анны Ганэцкай.*

Сп-ня І Каханоўская ахвяравала 25 дал. *заміж кветак на магілу с.п. Клаўдзіі Каляды.*

*(Працяг фін. справаздачы — у наступным нумары.)*

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчырая падзяка!

**Рэдакцыя «Беларуса»**